„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб’яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.

„Беларускі настаўнік” выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

„Дай, калі можаш, вазьмі — калі хочаш". Гэта быў галоўны прынцып кастрычніцкага настаўніцкага форуму *EdCamp Belarus-2019*, у якім мы з Алінай мелі гонар удзельнічаць і магчымасць сказаць пару слоў пра адукацыйную і медыйную сферы жыцця беларусаў Беласточчыны. У Мінск з'ехаліся актыўныя настаўнікі з усяе краіны, прычым абсалютна добраахвотна дзеля таго, каб падзяліцца сваім вопытам і навучыцца новаму ад калег-педагогаў не толькі з Беларусі, але і з-за мяжы. „Супрацоўніцтва — для будучыні" — так была сфармулявана агульная ідэя для *EdCamp Belarus-2019*. „А ідэя супрацоўніцтва вартая для нас усіх — беларусаў, якія жывуць у розных краінах. І найлепш гэта рабіць у адукацыі. Бо адукацыя — гэта магутны інструмент пабудовы будучыні", — так піша арганізатарка форуму Тамара Мацкевіч з Таварыства беларускай школы.

Гэты нумар „Беларускага настаўніка" і ёсць вынікам супрацоўніцтва Аб'яднання АБ-БА з ТБШ, якое гуртуе таленавітых настаўнікаў вакол цікавых і вартасных адукацыйных праграм, такіх як „Актыўная ацэнка", якая ўкараняецца ў Беларусі ўжо 10 гадоў. Аўтары нумара — педагогі-практыкі з вялікім вопытам працы. Ёсць чаму ў іх павучыцца.

Горача рэкамендую таксама размову з мастаком і былым настаўнікам Віктарам Кабацам. Гэта пахвальны гімн актыўнасці. Спадар Віктар у свае восемдзесят чатыры ўдзельнічаў у чатырох мастацкіх пленэрах. Як сам кажа, ён вырас сярод людзей, якія цяжка працавалі. А яго дзяцінства выпала на ваенную разруху і нялёгкія пасляваенныя гады: „Той, хто стараўся, у таго атрымлівалася нанава наладзіць жыццё. У таго, хто сядзеў бы склаўшы рукі — нічога б не выйшла". Думаю, гэта ўніверсальная праўда ва ўсе часы і ў любым месцы.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Няма калі адпачываць



Мікола ВАЎРАНЮК



**Віктар Кабац** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мінкаўка. Закончыў вышэйую Школу рысунку і жывапісу ў Лодзі ды Мастацкае аддзяленне Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні. Жыве ў Гайнаўцы. Займаецца жывапісам, графікай, стварае прасторавыя формы на памежжы скульптуры і жывапісу. Мастак Белавежскай пушчы.

Віктар Кабац увесь час у руху. А то нешта малюе, а то рэжа ў дрэве, а то арганізуе пленэр ці выставу калегам-мастакам, а то задуменна крочыць па сцежках і бездарожжах сваёй любімай Белавежскай пушчы ці хуткай хадой перасякае вуліцы і паркі Гайнаўкі. Усё пры справе.

— Найбольш шкада, што не змаглі мы з сынам знайсці час, каб паляцець на Ісландыю. Гэта маё захапленне апошніх гадоў. Цудоўная прырода, такая розная ад нашай...

— **Але ж там дарага!**

— Гэта залежыць, як хто там хоча час праводзіць. Мы ляцім таннымі авіялініямі, на месцы наймаем аўто, даязджаем куды нам трэба, а там ужо рукзакі на плечы, начлег у палатцы. А ўся краса наваколля — дарам.

— **Я ў захапленні ад Вашых карцін, інспіраваных прыродай Ісландыі.**

— А я ў захапленні ад гэтай выспы. Ледавікі, горы, скалы, сціплая паўночная расліннасць. Я з праўдзівым задавальненнем вандрую па Ісландыі, а потым малюю ўбачанае. Але сёлета нам не атрымалася, бо ў сына-лекара былі свае справы, а калі ў яго быў час, то ў мяне яго не было. Я з вясны ўдзельнічаў у чатырох пленэрах, у тым ліку і ў міжнародным у Вільні, на якім была таксама моцная група

беларускіх мастакоў. Мы там, дарэчы, працавалі не толькі ў Вільні, але і наведвалі месцы ў рэгіёне, звязаныя з беларускай гісторыяй, культурай. Мару пра тое, каб звазіць туды нашу моладзь. Збіраюся пра гэта пагаварыць з дырэктарам Гайнаўскага беларускага ліцэя.

— **Адкуль у Вас столькі энергіі?**

— Мабыць, з дзяцінства. Нашу вёсачку Беглюкі (афіцыйная назва — Мінкаўка) у Лядскй пушчы ў вайну спалілі немцы. Пасля вайны трэба было ўсё адбудоўваць з нуля. Вакол мяне ўсе цяжка працавалі, круціліся, напіналіся. Аралі, сеялі, ехалі ў лес па дзерава, рэзалі яго на дылі, будавалі хаты, хлявы, клуні. Працавалі талакой, памагалі адзін аднаму. Той, хто стараўся, у таго атрымлівалася нанава наладзіць жыццё. У таго, хто сядзеў бы склаўшы рукі — нічога б не выйшла.

— **Вы не баіцеся выказваць свае думкі, нават калі яны разыходзяцца з пазіцыяй большасці. Для прыкладу, Вы як адзін з нямногіх жыхароў Гайнаўкі за поўную ахову Белавежскай пушчы. Памятаю таксама Вас са знічкамі ў акцыях салідарнасці з бітымі беларускімі дэмакратамі. Лічаныя адзінкі ў Гайнаўцы выйшлі тады на сквер у цэнтры горада. Вы таксама прысвяцілі некалькі сваіх прац савецкім вывазкам леснікоў з Белавежскай пушчы ці мартыралогу беларускага народа ў Курапатах. Скажыце, калі ласка, адкуль узяўся такі Кабац?**

Першы здымак Віктара (3 гады). Ровар мамінага брата Яна Філіпчука, на якім ён прыехаў у Беглюкі з Гайнаўкі.



— Я думаю, што фундамент быў закладзены ў пачатковай школе. Я пайшоў у першы клас пры немцах, у 1942 годзе, у беларускую школу ў Нараўцы. Стварылі яе такія дзеячы як Мікола Саланевіч (бацька славутай кінадакументалісткі Тамары), Смактуновіч, які да вайны быў гаёвым, брат майго бацькі Пётр Кабац, які тады быў сакратаром гміны Нараўкі і Аляксандр Валкавыцкі, які стаў дырэктарам школы.

— **Вы хадзілі ў Нараўку з Беглюкоў?**

— Не, нашай вёскі ўжо не было. Як немцы яе спалілі, то нас вывезлі ў Канюкі — з тым, што маглі ўзяць на воз, ну да таго яшчэ былі свінка і кароўка. Астатняе пахавалі ў яму з-пад бульбы. Бацька ўсё хацеў вярнуцца. Дапамог яму брат Аляксандр, які працаваў на чыгунцы. Ён яшчэ да вайны быў начальнікам станцыі ў Ваўкавыску, заставаўся ім і пры немцах. Гэта быў — я тут крыху адыдуся ўбок — бацька вядомага пісьменніка Эўгеніюша Кабатца (*Kabatza*), а прозвішча ў іх розніцца ад нашага, бо так іх запісалі немцы. Паколькі ў Беглюкі мы не маглі вярнуцца, бо там нічога не было, то брат дапамог бацьку ўладкавацца на чыгунку. Мы сталі жыць у Нараўцы ў доме, які раней належаў яўрэям. І тады я пайшоў у школу. Будынак яшчэ царскай школы (там, дзе цяпер Галерэя Тамары Саланевіч) занялі пад свае кватэры немцы, дык мы вучыліся ў памяшканнях збору баптыстаў, там дзе цяпер аўтобусны прыпынак, над рэчкай. У школе, памятаю, былі ўрокі беларускай мовы, гісторыі з геаграфіяй і матэматыкі. Усё па-беларуску.

— **Быў тады школьны абавязак?**

— Не. Маці, дарэчы, не хацела, каб я хадзіў у школу. То бацька, які скончыў пару класаў, упёрся. Ён разумеў, што пару гектараў слабенькай зямлі на ўскраіне пушчы не забяспечаць годнай будучыні.

— **Ці мела значэнне тое, што школа была беларускай?**

— У Беглюках усе гаварылі па-беларуску. У нас, я лічу, вельмі прыгожая мова, блізкая да літаратурнай. Тым не менш, нейкага асаблівага зацікаўлення беларушчынай не было. Думаю, што для бацькі больш важна было тое, каб я вучыўся, чымсьці беларускі характар школы. Успрынялі гэта як нешта нармальнае, тым больш што свежай была памяць пра ўціск беларусаў у даваеннай Польшчы. Але і пасля вайны ніхто ў Нараўцы не пратэставаў супраць польскай школы. Праўда, можна было ў ёй вучыцца беларускай мове. Навучала яе пані Крук, здаецца Марыя. А яшчэ пан Палюховіч са Свіслачы па-беларуску вучыў практычным заняткам (хіба не ведаў польскай мовы, а прынамсі я не чуў, каб ён калі-небудзь гаварыў па-польску).

— **Для некаторых і гэтага было замнога. Вашага дырэктара Аляксандра Валкавыцкага ў красавіку 1945 года ў цэнтры Нараўкі застрэліў атрад «Лупашкі».**

— Прыйшло тады ў Нараўку са зброяй чалавек трыццаць-сорак. Забілі шэсць асоб, з іх чатыры былі ў Польскай рабочай партыі. Сярод іх і мой дзядзька Пеця, які закончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, а ў той час быў сакратаром гміны. Мой бацька нават не ведаў, што ён паспеў запісацца ў партыю.

— **Народная ўлада мела ў вас вялікую падтрымку?**

— Цяжка было яе не падтрымліваць, іншай жа не было. Людзі адбудоўваліся пасля вайны. І гэтая ўлада крыху дапамагала, ці прынамсі не мяшала, напрыклад, моцна не пільнавала дрэва ў лесе, неабходнага ў гаспадарцы. У той час на нашай тэрыторыі дзейнічала савецкая рэпатрыяцыйная камісія. Да бацькі прыйшоў лейтэнант і кажа, бяры ўсё і выязджай у Савецкі Саюз. Вам тут палякі жыцця не дадуць, а там атрымаеш зямлі колькі захочаш. Пасля расстрэлу брата бацька вагаўся, але прыйшла да нас пані Лушчынская — жонка даваеннага фельчара — і стала ўмаляць, каб нікуды не ехалі: вам тут ніхто нічога не зробіць. Няхай спярша бацька паедзе і пабачыць, што там вас чакае. Бацька з такой прапановай пайшоў да лейтэнанта, а той на яго як закрычыць: ты савецкаму афіцэру не верыш!? І так мы засталіся. Упэўніліся, што добра зрабілі, калі сталі прыходзіць пісьмы ад Карпюка з Бярнацкага Мосту, які паддаўся прапагандзе і паехаў на ўсход: „Як я зайздрошчу, што ў вас такое добрае надвор'е, а ў нас бура, мароз 40 градусаў".

— **Вы карысталіся „добрым надвор'ем" і вучыліся.**

Мама Марыя з малодшым братам Славамірам (1938 г.)





Бацька Ян – здымак з нямецкага пашпарта ваенных гадоў.

— Трэба было падганяць згублены ў вайну час. Нам не залічылі аднаго года беларускай школы, дык мы за год рабілі два. І ў класе былі дзеці ў розным узросце. Большасць з іх памятаю, бо такая цікавая кампанія сабралася: Сымон Раманчук з Гушчэвіны — пазнейшы архіепіскап, Мікалай Грыгарук са Скупава, Аляксандр Дрозд з Міклашэва (цэлая вёска драўляныя вазы рабіла), Ян Сухадола з Сушчага Барка, Станіслаў Антропаў з Грушак — католік, яго бацьку, даваеннага гаёвага, вывезлі саветы. Хачу падкрэсліць, што мне пашанцавала і з калегамі, і з настаўнікамі, і з месцам, бо Нараўка не мае нейкіх чорных картаў неталерантнасці, міжнацыянальнай варажнечы. Адно, чаго трэба саромецца з ваенных гадоў, то мяшэчніцтва, якое дазволілі немцы пасля вывазкі і закатавання нараўчанскіх яўрэяў. Але я не памятаю, каб у нас падзелы ішлі па нацыянальнай ці рэлігійнай мяжы. Першае знаёмства з літаратурай я абавязаны настаўніцы польцы Ядвізе Стульгіс, якая запрашала нас у сваю хатнюю бібліятэку (яе муж Бармута быў з Белавежы), дазваляла глядзець кнігі і пазычала нам іх. На той час кніга была рарытэтам. Мы нават не заўсёды сшыткі мелі, часта даводзілася пісаць крэйдай на дошчачках. А тут нам пані Стульгіс паказвае „Пана Тадэвуша” з графікамі Андрыёлі!

**— Пасля пачатковай школы Вы падаліся ў Педагагічны ліцэй у Бельску.**

— У беларускі клас. Мы з Нараўкі туды пайшлі ўтраіх: Сымон Раманчук, Коля Грыгарук і я. Я баяўся экзамену, бо быў слабы з матэматыкі, але наш апякун Антоні Скок, родам з-пад Свіслачы, трымаўся такога прынцыпу: падпісаўся без памылкі — добра здаў. Ён меў такую мару, каб як найбольш нас і як найхутчэй вывучыць і паслаць у вясковыя школы. Таму ён і ў час навукі не прыдзіраўся да таго, што хто не ўмеў, а стараўся максімальна выцягнуць здольнасці вучняў. Зрэшты, так паводзілі сябе і іншыя настаўнікі, сярод якіх многа было яшчэ даваенных, з этасам інтэлігента. Мая матэматычка, прафесар Марчук таксама змірылася з тым, што я матэматыцы так і не навучуся, але ж не лічыла мяне нейкім апошнім, бо меў іншыя здольнасці — добра рысаваў, рыхтаваў насценныя газеткі, дэкарацыі для школьнага тэатра. Рысунку вучыў нас пан Манцэвіч, які да вайны закончыў Універсітэт Стэфана Баторыя ў Вільні. Дарэчы, мае мастацкія здольнасці першы заўважыў яшчэ ў Нараўцы Палюховіч — нарысаванага мною каня павесіў у настаўніцкім пакоі. І даваў мне па адным каляровым алоўку, каб я рысаваў.

**— Як Вы запамяталі вучобу ў Бельску?**

— Вельмі добра, пачынаючы з саліднага будынка даваеннага ліцэя, у якім мы вучыліся. Цяпер там Агульнаадукацыйны ліцэй імя Касцюшкі. Нашым дырэктарам быў Мікалай Канашынькі, з памешчыцкай сям'і адкульсці з Мазовіі. Не ведаю, як ён трапіў у Бельск, але быў там вельмі шанаваны. Не ведаю таксама, наколькі гэта была яго пазіцыя, што школа моцна не ангажавалася ў камунізм. Мы ідэалагічна былі „адсталыя”, нават на 1 Мая заўсёды ішлі апошнімі.

У нас не было актыўных палітрукоў, якія б падзялілі наш дружны калектыў, не было нездаровай канкурэнцыі. Я добра ацэньваю таксама тое, што ў школе побач сябе былі беларускія і польскія класы, тыя самыя настаўнікі нас вучылі. Гэта дапамагала ўзаемапазнанню і інтэграцыі. Ну і наш клас быў файны: Аляксандр Вязоўскі, Сцяпан Бурыла, Закройшчык, Майстровіч, Лявонцій Тафілюк, Сымон Раманчук, Коля Грыгарук, Янка Сычэўскі, мая першая дзяўчына Галя Русачык, якая пазней выйшла замуж за Тапалянскага...

Мне прыпомнілася адна гісторыя, якая паказвае падыход нашых настаўнікаў да вучняў. Я не быў ціхім, паслухмяным хлопцам. Наадварот, увесь час мяне насіла, часта кудысьці ўлазіў. У інтэрнаце разам з трыма калегамі ўгледзелі мы, дзе трымаюць слоікі з мясам. А паколькі ў той час мы занадта не аб'ядаліся, то з вялікім апетытам на іх накінуліся, а што не з'елі, то схавалі. Авантура! Хутка нас выкрылі: „што з'елі, таго ўжо не вернеш, прызнайцеся дзе астатнія слоікі, трэба ж нечым карміць інтэрнат". Мы хутка прызналіся. Трэба нас пакараць, справа ж набыла розгалас, але настаўнікі да гэтага моцна не рваліся. Аказалася, што бацька аднаго хлопца з нашай чацвёркі некалькі разоў прыходзіў у школу з просьбай перавесці яго сына ў Беласток. Наш апякун падказаў, каб той хлопец узяў віну на сябе і за гэта яго перавядуць у Беласток, а мы атрымаем вымовы. Так і сталася. Таму калегу гэта не пашкодзіла, пазней стаў вядомым лагапедам.

**— Вы давучыліся ў Бельску.**

— Так, матуру здаў у 1955 годзе. Атрымаў стыпендыю, аднак з такой умовай, што выберу школу, у якой стану працаваць. Я выбраў са спіска Старую Разадранку каля Саколкі. Гэта была каталіцкая ваколіца, але ўсе гаварылі па-беларуску, нават ксёндз, які — памятаю — моцна лаяў мужыкоў, калі тыя працавалі ў нядзелю ў полі. І ў школе была беларуская мова.



Чацвёрты клас ліцэя. Узнікае партрэт Адама Міцкевіча.



Школьны тэатр. Віктар Кабац з Галенай Русачык.



ŚWIADECTWO DOJRZAŁOŚCI
LICEUM PEDAGOGICZNEGO
Z BIAŁORUSKIM JĘZYKIEM NAUCZANIA

Kabac Wiktor

urodzony dnia 23 kwietnia 1935 r. w Minkówce
powiat: Hajnówka po ukończeniu nauki w Liceum Pedagogicznym zdał egzamin dojrzałości przed Państwową Komisją Egzaminacyjną, powołaną przez Prezydium Woj. Rady Narodowej — Wydział Oświaty w Białymstoku pismem z dnia 13 maja 1955 r. w Państwowym Liceum Pedagogicznym im. w Bielsku-Podlaskim

Bielsk-Podlaski, dnia 25 czerwca 1955 r.

Nr 9

Członkowie Państwowej Komisji Egzaminacyjnej

Przewodniczący Państwowej Komisji Egzaminacyjnej



ПАСВЕДЧАННЕ ДАРОСЛАСЦІ
ПЕДАГАГІЧНАГА ЛІЦЭЯ
з навучаннем на беларускай мове

Кабац Віктар

нарадзіўся 23 IV 1935 у Мінкоўцы
павет Гайнаўка

Беластоку 13 мая 1955

у Бельску-Падляскім

Бельск-Падляскі 25 чэрвеня 1955 г.

№ 9

Матуральнае пасведчанне (1955 г.)

А я вучыў рысунку, практычным заняткам, гісторыі. Разам з паланісткай апекаваліся тэатральнай групай, паставілі „Зэмсту” Фрэдры. Жыў я ў панства Казлоўскіх, бяздзетнай пары. Яны вельмі добра да мяне ставіліся, не хацелі нават, каб я ім плаціў. У Разадранцы была мураваная школа, ужо пасляваенная. Пасля двух гадоў адтуль мяне перавялі ў Геніюшы. Там была драўляная школа, яшчэ даваенная. Праца мне падабалася, але аднойчы прыехаў школьны інспектар і кажа, што пра мяне ўспомніла армія. Але, калі я не хачу апранаць мундзір, ёсць выйсце: вышэйшая школа. Я выбраў другі варыянт і стаў студэнтам Школы рысунка і жывапісу пры Вышэйшай мастацкай школе ў Лодзі. Гэта быў асяродак авангарду, адчуваўся там яшчэ дух Кацярыны Кобры і Уладзіслава Стрэмінскага. У той час, калі я там вучыўся, школа спецыялізавалася ў артыстычнай тканіне. Мяне больш схіляла да рысунка. Вучыў яму Станіслаў Барысоўскі — выпускнік Мастацкага аддзялення Віленскага ўніверсітэта. З прафесарам Барысоўскім я сустрэўся пазней на Мастацкім аддзяленні Універсітэта ў Торуні. Там я абараніў дыплом.

— **І з дыпломам вярнуліся на Беласточчыну.**

— Так, у Чаромху. Працаваў я там год і мяне перавялі ў Гайнаўку, спачатку ў Пачатковую школу № 5, а пасля паўгадовай працы там — у Ліцэй імя Мар'і Кюры-Складоўскай (польскі), адкуль я выйшаў на пенсію. У школьніцтве працаваў роўна 31 год, ні дня даўжэй.

— **Жонку Вы таксама пазналі ў школе? Здаецца, яна нетутэйшая.**

— Галіна з цэнтральнай Польшчы. Студзіравала год мікрабіялогію ў Лодзі. Але прыехала ў Гайнаўку, да каляжанкі з універсітэта. Тут зняла кватэру, знайшла працу ў Доме настаўніка. Там мы і пазнаёміліся. Потым жонка закончыла польскую філалогію ў Варшаўскім універсітэце

і разам мы працавалі ў польскім ліцэі. А на пенсіі выявіла мастацкія здольнасці. Было так, што я атрымаў заказ напісаць іконы для збудаванай маім братам Янам царквы Святога Духа ў Беластоку. Часу было мала, работы многа, Галіна кажа, давай я табе памагу. Спачатку грунтавала дошкі, потым намалявала хмарку, аднаго анёлка, другога. І я ўбачыў, што яна некаторыя рэчы робіць лепш за мяне, бо дбае пра дэталі, на якія я часта не звяртаю ўвагі. Потым скончыла Іканаграфічную студыю ў Бельску, піша іконы. Размалявала Крыжовую дарогу ў новым касцёле на Крыме, які пабудавалі палякі. Ксёндз хацеў, каб яна была як мага больш набліжаная да ўсходняй хрысціянскай традыцыі. Два гады над тым заказам працавала і зрабіла. Праўда, мы не былі там, не бачылі як яе праца прэзентуецца на месцы. Глядзелі толькі ў інтэрнэце.

**— Вырасла Вам у хаце канкурэнцыя.**

— Я вельмі цешуся, хаця б не назваў гэтага канкурэнцыяй, хутчэй супольнымі зацікаўленнямі. Мы добра разумеемся і дапаўняем адзін аднаго.

**— Адным словам, Вы — споўнены ў сям'і і мастацтве.**

— З аднаго боку так, бо жыву на роднай зямлі, побач з вельмі мне дарагой Белавежскай пушчай, малюю, прымаю актыўны ўдзел у артыстычным жыцці рэгіёна і па-за ім. Неаднаразова ўзнагароджваўся за свае працы. Тым не менш, хочацца яшчэ працаваць і больш пакінуць па сабе. Таму мы з Валодзем Мусько — на жаль, ужо святой памяці — аднавілі гайнаўскія пленэры разьбы па дрэве. Адбываліся яны ў нашым горадзе ў 1970-1980-я гады, з удзелам выдатных майстроў, якіх я любіў падглядаць за працай і якія ахвотна дзяліліся сваімі ведамі. Потым быў дваццацігадовы перапынак і зноў мы сталі ў Гайнаўку запрашаць разьбяроў. Ёсць шанс, што іх працы застануцца ў гарадской прасторы, бо бургамістр выдзеліў добрае месца на галерэю скульптуры пад адкрытым небам. Будзем яго добраўпарадкоўваць.

**— Дзе ж лепшае месца на галерэю драўлянай скульптуры, чым у Гайнаўцы?**

— Праўда.

**— Вы больш сябе лічыце жывапісцам ці скульптарам?**

— Я не прызнаю строгіх межаў у мастацтве. На маіх карцінах, напрыклад, ёсць элементы трохвымерныя, часта з дрэва. Я таксама не лічу, што ствараю чыстую скульптуру, хутчэй нейкую прасторавую форму. Часта сам матэрыял, яго форма і фактура многа прадвызначаюць. Люблю выкарыстоўваць у працы агонь, ён моцна мяняе каларыстыку, узбагачае форму. У маіх працах многа натуры як у тэматыцы, так і ў выкарыстаных матэрыялах і сродках.



У сваёй першай майстэрні – Дом настаўніка ў Гайнаўцы (1966/67 гг.)

**— Можна сказаць, што месца, у якім размаўляем — зямлянка каля Сямяноўкі — таксама ваш артыстычны твор, прасторавая форма.**




Разам з сябрам, гайнаўскім мастаком Станіславам Жывалеўскім у Будах. З імі легендарны сабака Кабацаў – Бей (1996 г.)



Мастацкі пленэр у Нарве (2014 г.)

— Гэтай зямлянцы ўжо дваццаць два гады. Участак я тут купіў яшчэ пры камуне, бо хацеў мець кавалак зямлі ў родных мясцінах. Хаця тут быў адзін пясок ды камяні, то лічылася яна ворнай і ніякага будынка на ёй не можна было ставіць. Я прыпомніў сабе, як мы пасля вайны жылі ў такім збудаванні напалову ў зямлі, пакуль не паставілі хату. Кажу павятоваму будаўнічаму інспектару: а ў зямлі магу капаць? *W ziemi to kop ile chcesz, choć na drugą stronę*. Я прыехаў сюды з сабакам і намётам і стаў капаць. І сваімі рукамі я тут усё збудаваў. Адно брат архітэктар зрабіў адпаведныя вылічэнні, каб нічога не завалілася, асабліва дах, які тырчыць над зямлёй круглым узгорачкам. Хатка невялікая, утульная, нам дваім хапае. Нават у найбольшыя маразы можна сюды прыязджаць. Распальваю печку, дзве-тры гадзіны праходзяць і цёпла як у гарадской кватэры.

**— А час ёсць тут адпачываць?**

— Ну, з тым бывае па-рознаму. Я ўжо казаў, што гэтае лета было вельмі працавітае. Нават планаваны выезд на Ісландыю давялося адмяняць. Але можа паляцім туды зімою, паглядзець паўночнае ззянне.

**— Вы абяцалі на апошняй сваёй персанальнай выставе ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы кожныя пяць гадоў даваць справаздачы з таго, што робіце.**

— Так. Ужо запрашаю на верасень 2020 года. Тады споўніцца мне восемдзесят пяць. Апрача карцін і скульптур пакажу фільм, які пра мяне зняў Раман Васілюк. Па-мойму вельмі цікавы і нідзе пакуль не паказаны.

**— Дзякуй за запрашэнне. Абавязкова буду.**

Размаўляў **Мікола ВАЎРАНЮК**

# Мадэль прасторы

## этнакультурнага выхавання дзіцяці ва ўмовах установы адукацыі



Алена КАХНОЎСКАЯ

**Алена КАХНОЎСКАЯ —** дацэнт кафедры менеджменту і адукацыйных тэхналогій Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, г. Мінск, кандыдат педагагічных навук.

Апошнім часам прасторавы падыход да адукацыі становіцца адным з актуальных кірункаў. Пытанні стварэння прасторы выхавання, падыходы да яе пабудовы, распрацоўка «кампанентаў» зместу і структуры адлюстраваны ў работах шматлікіх айчынных і замежных навукоўцаў. Зазначым, што паняцце «выхаваўчая прастора» даследчыкамі трактуецца па-рознаму. У шырокім сэнсе прастора — гэта мноства аб'ектаў, паміж якімі ўсталёўваюцца адносіны, што вызначаюцца характарам аб'ектаў, а таксама адлегласцю паміж імі. Прастора амбівалентная: для яе характэрны такія ўласцівасці, як працягласць і фрагментарнасць, перарывістасць і бесперапыннасць[1]. У залежнасці ад лакалізацыі і задач вывучэння вылучаны: выхаваўчая прастора асобы, выхаваўчая прастора ўстановы адукацыі, выхаваўчая прастора рэгіёна, канстатуецца вартасць выхаваўчай прасторы, вызначаюцца функцыянальныя асаблівасці, але не заўсёды апісваюцца працэсы яе стварэння.

Прастора выступае ў якасці найвышэйшага ўзроўню канцэптуалізацыі выхавання. Даследчыкі ілюструюць дынаміку прыросту навуковых ведаў у асэнсаванні выхавання наступным чынам: выхаваўчая работа — выхаваўчая дзейнасць — выхаваўчая сістэма — выхаваўчае асяроддзе — выхаваўчая прастора[2]. Выхаваўчая прастора ў сваю чаргу разглядаецца праз кантэксты выхаваўчай работы, дзейнасці, сістэмы і асяроддзя. На думку Людмілы Новікавай, выхаваўчая прастора з'яўляецца аб'ектам вывучэння (калі яна ўжо створана), мадэлявання і канструявання (калі яе трэба ствараць у межах канкрэтнага асяроддзя), а таксама прыладай выхавання (калі яе магчымасці мэтанакіравана выкарыстоўваюцца ў рабоце з дзецьмі)[3].

[1] Л. И. Новикова, М. В. Соколовский, «*Воспитательное пространство» как открытая система (педагогика и синергетика)*», «Общественные науки и современность», 1998, № 1, с. 132-134.

[2] А. И. Иванов, *Пути развития культурной среды общеобразовательной школы*, «Воспитательная работа в школе», 2007, № 3, с. 25-38.

[3] Л. И. Новикова, *Воспитание как педагогическая категория*, «Педагогика», 2000, № 6, с. 32-33.

Тэарэтычнае асэнсаванне навуковых даследаванняў і іх параўнальны аналіз на аснове культуралагічнага падыходу дазволілі аўтарам выявіць *сутнасць прасторы этнакультурнага выхавання дзяцей* як цэласнага, сістэмна арганізаванага, этнакультурна ўзбагачанага асяроддзя, арыентаванага на базавыя ўніверсаліі этнічнай культуры, і распрацаваць яе мадэль. Базавыя ўніверсаліі вызначаныя намі з апорай на працы прафесара Валерыя Пазнякова[4]: *суб'ектныя* (асоба, сацыяльная група, этнас, народ); *праксеалагічныя* (рэпрадуктыўныя, рэпрадуктыўна-прадуктыўныя, прадуктыўна-творчыя віды дзейнасці); *аксіялагічныя* (каштоўнасныя адносіны, ідэалы, нормы, ацэнкі, арыентацыі); *семіятычныя* (знак, сімвал, тэкст, кантэкст, культурныя камунікацыі); *прадметныя* (прадметнае асяроддзе этнічнай культуры); *архетыпова-міфалагічныя* (архетыпы, міфы, казкі, паданні, легенды); *трансляцыі і ўзнаўленні этнакультурнага вопыту* (традыцыі, абрады, святы; музеі).

Сутнасць мадэлі, пабудаванай у адпаведнасці з аўтарскімі ўяўленнямі пра этнічную культуру як сістэмную цэласнасць, раскрываецца ў мэтавым, зместавым, працэсуальным, вынікова-ацэначным блоках[5]. Базавыя ўніверсаліі этнічнай культуры ўплываюць на пастаноўку задач, адбор зместу, вызначэнне форм, метадаў, відаў дзейнасці, сродкаў выхавання.

***Мэтавы блок*** з'яўляецца сэнсавым ядром прасторы як сістэмы, галоўным фактарам яе функцыянавання і развіцця. Мэта і задачы этнакультурнага выхавання адпавядаюць тыпаўтваральным прыкметам этнічнай культуры. Мэта прасторы — стварэнне ўмоў для павышэння этнічнай дасведчанасці дзяцей, фарміраванне іх этнічнай ідэнтычнасці і каштоўнасных адносін да беларускай этнічнай культуры. Задачы выхавання карэлююць са зместам базавых універсалій этнічнай культуры беларусаў.

***Зместавы блок*** мадэлі прасторы ўводзіць дзіця ў свет этнічнай культуры праз сістэму ўзаемадзеяння яе базавых універсалій:

- *суб'ектных* (развіццё самастойнасці, камунікатыўнасці, добразычлівасці дзіцяці, пачуцця асабістай годнасці; узбагачэнне выхаванцаў вопытам творчай, пошукавай дзейнасці, актуалізацыя набытых раней ведаў і ўяўленняў пры вырашэнні новых задач этнакультурнага зместу);
- *праксеалагічных* (стварэнне ўмоў для актыўнасці выхаванцаў падчас культуратворчай дзейнасці, фарміраванне ўнутранай патрэбы, інтарэсу да яе);
- *аксіялагічных* (фарміраванне адносін, заснаваных на традыцыйных нормах, паміж суб'ектамі прасторы; асобасныя арыентацыі дзяцей і дарослых (добразычлівасць, ветлівасць, спагада, гасціннасць); каштоўнасныя адносіны да матэрыяльных і духоўных складнікаў этнічнай культуры беларусаў);
- *семіятычных* (далучэнне дзяцей да беларускай мовы, азнаямленне з геаграфічнымі аб'ектамі (населеныя пункты, вуліцы, рэкі, азёры, замкі, палацы, крэпасці), сімвалічнымі элементамі нацыянальнай культуры (геаметрычны і раслінны арнамент,

[4] В. В. Позняков, *Конструирование воспитательного пространства*, «Праблемы выхавання», 2006, № 5, с. 4-8.

[5] А. В. Кахноўская, *Мадэляванне прасторы этнакультурнага выхавання дзяцей ва ўмовах установы дашкольнай адукацыі*: аўтарэф. дыс. ... канд. пед. навук: 13.00.01, Мінск 2019, 28 с.

колеравая палітра), сімваламі, якія выражаюць ідэю дзяржаўнай незалежнасці, сімволікай малой радзімы, краіны ў цэлым і падобнае);

- *прадметных* (азнаямленне з прадметамі, што раскрываюць асаблівасці культурнага побыту канкрэтнага рэгіёна; прадметамі свету міфаў, казак; прадметамі дзіцячай субкультуры [народныя гульні і цацкі]);

- *архетыпова-міфалагічных* (далучэнне да фальклорных твораў розных жанраў: забаўлянак, заклічак, лічылак, загадак, казак, легендаў, паданняў, міфаў; міфалагічных вобразаў этнічнай культуры);

- *універсалій трансляцыі і ўзнаўлення этнакультурнага вопыту* (уключэнне суб'ектаў прасторы ў арганізацыю і правядзенне народных свят на аснове гадавога кола; станаўленне сямейных традыцый як умовы пераемнасці этнакультурнага вопыту). Усе апісаныя ўніверсаліі з'яўляюцца ўзаемазвязанымі і арыентуюць дзяцей і дарослых на этнакультурна насычанае ўзаемадзеянне.

***Працэсуальны блок*** мадэлі прадстаўлены трыма модулямі працэсу этнакультурнага выхавання дзяцей: пазнавальным, адносін і дзейнасным; формамі і метадамі інтэграцыі выхаванцаў у прастору; сродкамі яе арганізацыі.

*Пазнавальны модуль* арыентуе на фарміраванне ў выхаванцаў уяўленняў пра беларускую этнічную культуру і рэалізуецца ў асноўным праз формы (заняткі інтэграванага характару на аснове этналагічнага зместу, экскурсіі і прагулкі як формы насычэння ўяўленнямі пра этнічную культуру, сеансы актывізуючых зносін) і метады развіцця пазнавальнай дзейнасці (слоўныя, інфармацыйна-рэцэптыўныя, рэпрадуктыўныя, праблемныя, эўрыстычныя).

*Модуль адносін* накіраваны на станаўленне ў дзяцей каштоўнасных адносін да сябе і іншых людзей, беларускай этнічнай культуры і можа быць рэалізаваны праз *формы* (народныя святы — прыярытэт аграрнай тэматыцы, перадсвяточныя вячоркі, забавы) і *метады развіцця пачуцця прыналежнасці да этнакультурнай спадчыны* (гульнёвыя, метад выхаваўчых сітуацый).

*Дзейнасны модуль* дазваляе актывізаваць праяўленне каштоўнасных матываў, здольнасцей дзіцяці, узнікненне самастойнай культуратворчай дзейнасці як спосабу самавыражэння, самаідэнтыфікацыі. *Метады развіцця ў этнакультуратворчай дзейнасці* (прадуктыўныя, даследчыя) дазваляюць уключаць суб'екты прасторы (дзяцей, дарослых) у сумесныя яе віды.

*Сродкамі* арганізацыі прасторы этнакультурнага выхавання выступаюць вусная народная творчасць, народныя гульні і цацкі, музычны фальклор, святы, мастацтва, этнакультурна ўзбагачанае развіццёвае асяроддзе. Этнакультурна ўзбагачанае развіццёвае асяроддзе прадстаўлена інтэграванымі лакальнымі міні-асяроддзямі, насычанымі сімваламі свету этнічнай культуры.

***Вынікова-ацэначны блок*** мадэлі ўяўляе сабой інструментарый для ацэнкі эфектыўнасці прасторы этнакультурнага выхавання дзяцей, якая вызначаецца шляхам выяўлення стану сфарміраванасці ўяўленняў пра этнічную культуру і адносін да яе ў выхаванцаў адпаведна базавым універсаліям этнічнай культуры. Пералічаныя блокі мадэлі прасторы этнакультурнага выхавання ўзаемазвязаны паміж сабой і з'яўляюцца ўзаемаабумоўленымі.

Рэалізаваць мадэль у адукацыйным працэсе ўстановы адукацыі магчыма пры ўмове спецыяльна ўзбагачанага развіццёвага асяроддзя («цэнтры» этнічнай

культуры, міні-музеі «Беларуская хатка», этнічна стылізаваныя залы, творчыя майстэрні) праз адпаведныя формы (гульні, заняткі, народныя святы, перадсвяточныя вячоркі, забавы, экскурсіі, прагулкі) і метады (слоўныя, інфармацыйна-рэцэптыўныя, рэпрадуктыўныя, праблемныя, эўрыстычныя, даследчыя, гульнявыя, прадуктыўныя, метад праектаў, выхаваўчыя сітуацыі), накіраваныя на стымуляванне ў дзіцяці самастойных культуратворчых праяўленняў у розных відах дзіцячай дзейнасці.

У даследаванні ўвесь этналагічны матэрыял быў размеркаваны па сямі раздзелах: «Я — беларус», «Этнакультуратворчая дзейнасць», «Этнакультурныя каштоўнасці», «Сімвалы Беларусі. Сімвалы беларускай этнічнай культуры», «Рукатворны свет этнічнай культуры», «Міфалагічны свет этнічнай культуры», «Культурныя традыцыі беларусаў». Кожны з раздзелаў меў пэўную спецыфіку, выконваў канкрэтную адукацыйную функцыю[6]. Работа ў рамках раздзела «Этнакультуратворчая дзейнасць» планавалася па трох кірунках: сумесная дзейнасць выхаванцаў і педагагічных работнікаў; самастойная дзейнасць дзяцей; этнакультуратворчая сумесная дзейнасць дзяцей і дарослых (педагогі, бацькі). Вылучаныя раздзелы прадстаўляюць змест прасторы этнакультурнага выхавання. Ігнараванне аднаго з раздзелаў парушае яе цэласнасць, не дазваляе выхаванцам атрымаць уяўленні пра беларускую этнічную культуру на больш высокім узроўні. Прадстаўляем вашай увазе фрагмент планавання па азнаямленні дзяцей з этнічнай культурай беларусаў у розных відах дзейнасці (глядзі: *Дадатак*).

Такім чынам, аўтарская мадэль прасторы этнакультурнага выхавання дзіцяці можа быць выкарыстана ва ўстановах адукацыі, якія размешчаны ў гарадской і сельскай мясцовасцях; дае цэласнае ўяўленне пра змест этнічнай культуры — этнакультурнае выхаванне — прастору этнакультурнага выхавання; прадстаўляе алгарытм дзейнасці па рэалізацыі пастаўленай мэты; дазваляе відазмяняць існуючыя і ствараць выхаваўчыя асяроддзі, якія адпавядаюць патрэбам дзяцей, бацькоў, а таксама магчымасцям педагогаў.

# Дадатак

[6] А. В. Кахноўская, *Этнакультурнае выхаванне: фарміраванне асноў патрыятызму ў старшых дашкольнікаў: вучэбна-метадычны дапаможнік*, 2-е выданне, выпраўленае, Мінск 2013, 100 с.

| СНЕЖАНЬ | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Форма ўзаема-дзеяння** | **Зносіны** | **Маўленчая дзейнасць (мастацкая літаратура)** | **Музычная дзейнасць** | **Мастацкая дзейнасць** | **Гульнявая дзейнасць** | **Пазнавальная (даследчая) дзейнасць** |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| **Тэма «Старажытны горад Мінск»** | | | | | | |
| Сумесная дзейнасць педагога і дзяцей | Гутарка на тэму «Слаўны горад Мінск» | Паданне «Аб паходжанні Мінска»; вершы пра горад Мінск; легенды аб паходжанні назвы горада Мінска; гутарка «Ці хацеў бы ты жыць у старажытным горадзе?» | Слуханне: «Куточак зямлі» (муз. і сл. Я. Жабко) | Маляванне на тэму «Старажытны горад Мінск»; аплікацыя «Святочны горад» | Дыдактычныя гульні: «Пакажы на карце», «Назаві знаёмыя мясціны»; рухомыя народныя гульні; трэнінг-разважанне «Чым падобныя і чым адрозніваюцца старажытны і сучасны Мінск» | Праца з картай Беларусі, адміністра-цыйнай картай Мінска |
| Самастойная дзейнасць дзяцей | | Ілюстраваныя матэрыялы па тэмах «Старажытны горад Мінск», «Мінск – учора і сёння»; «Мінскія сшыткі» | Запісы песень аб Беларусі для слухання | | Настольна-друкаваныя гульні з дапаможніка «Мінскія сшыткі» | Карта Рэспублікі Беларусь |
| Этнакультуратворчая сумесная дзейнасць (педагогі, бацькі, дзеці) | | Складанне калажу з фотаздымкаў, малюнкаў, ілюстрацый «Мінск: мінулае і сучаснасць» | | | | |
| **Тэма «Мова родная мая…»** | | | | | | |
| Сумесная дзейнасць педагога і дзяцей | Гутарка на тэму «Наша родная мова – беларуская» | Чытанне вершаў М. Пазнякова «Міколкавы пытанні», Г. Пашкова «Родная мова», М. Мятліцкага «На роднай мове», Н. Гілевіча «Родная мова» і інш.; чытанне фальклорных твораў; прыказкі: «За словам у кішэню не лезе», «Слова лечыць, слова і калечыць» | Беларускія песні; народны танец «Крыжачок» | | Народная гульня «Мышка»; дыдактычная гульня «Адкажы па-беларуску» | Разглядванне партрэтаў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў |
| Самастойная дзейнасць дзяцей | | Тэксты кніг на беларускай мове, партрэты беларускіх паэтаў | Беларускія песні | | Атрыбуты для народных гульняў | |
| Этнакультуратворчая сумесная дзейнасць (педагогі, бацькі, дзеці) | | — | | | | |
| **Тэма «Мастацтва выцінанкі»** | | | | | | |
| Сумесная дзейнасць педагога і дзяцей | Гутарка на тэмы: «Гісторыя ўзнікнення мастацтва», «Выцінанка» | Верш «Сняжынкі» І. Вярыгі і іншыя творы пра зіму | Песні, карагоды пра зіму: «Навагодні карагод» (муз. І. Лучанка, сл. В. Лучанка), «Зіма навагодняя» (муз. і сл. Я. Жабко) і інш. | Выраб выцінанак-выразанак | Дыдактычная гульня «Прыдумай сказ пра сняжынку» | Даследаванне: формы, колеру сняжынак; даследаванне: «Калі растане сняжынка?» |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Самастойная дзейнасць дзяцей | | Ілюстраваныя матэрыялы, альбомы па тэме «Мастацтва выцінанкі» | Зімовыя гульні-карагоды з выкарыстаннем атрыбутаў (сняжынкі-выцінанкі) | Матэрыялы для самастойнага вырабу выцінанак | Дыдактычная гульня «Складзі сняжынку»; настольна-друкаваная гульня «Выцінанкі» (даміно) | |
| Этнакультуратворчая сумесная дзейнасць (педагогі, бацькі, дзеці) | | Складанне сумеснага альбома «Самая прыгожая сняжынка» | | | | |
| **Тэма «Зімовыя забаўкі»** | | | | | | |
| Сумесная дзейнасць педагога і дзяцей | Гутарка на тэму «Традыцыі святкавання Новага года» | Чытанне вершаў, фальклорных твораў пра зіму; складанне казак і інш. | Песні, карагоды пра зіму: «Навагодні карагод» (муз. І. Лучанка, сл. В. Лучанка), «Зіма навагодняя» (муз. і сл. Я. Жабко) і інш. | | Рухомыя народныя гульні-карагоды «Зюзя», «Мядзведзь», «Казёл» і інш.; дыдактычныя гульні са сняжынкамі-выцінанкамі | Работа з народнымі прыкметамі (даследаванне): «На небе шмат белых воблакаў – да маразоў», «Яснае неба зімою – перад моцнымі халадамі» |
| Самастойная дзейнасць дзяцей | | Ілюстраваныя матэрыялы па тэмах: «Зіма», «Новы год»; малюнкі «Зюзя», «Дзед Мароз», «Санта Клаус» | | | Зімовыя гульні-карагоды з выкарыстаннем атрыбутаў (сняжынкі-выцінанкі) | Назіранне за надвор'ем |
| Этнакультуратворчая сумесная дзейнасць (педагогі, бацькі, дзеці) | | Падрыхтоўка калядных строяў, масак, атрыбутаў да свята | | | | |
| **СТУДЗЕНЬ** | | | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| **Тэма «Калядкі»** (матэрыял размяркоўваецца на два тыдні) | | | | | | |
| Сумесная дзейнасць педагога і дзяцей | Гутарка на тэму «Народнае свята «Каляды» | Прыказкі «Прыйшлі калядкі – бліны ды аладкі»; аповед «Гісторыя ўзнікнення свята «Калядкі»; фальклорныя матэрыялы па тэме | Гульня-карагод «Калядачкі» (муз. і сл. Я. Жабко); інсцэніраванне напеўкі «Мядзведзь» (муз. і сл. Я. Жабко) і інш. | Маляванне плакатаў з каляднай сімволікай (зорка, каза, бусел); маляванне па ўяўленні: «Каляда» | Рухомыя народныя гульні-карагоды: «Каляда», «Зюзя», «Мядзведзь», «Казёл» і інш. | Абследаванне калядных строяў; беларускага тэатра «Батлейка»; назіранне за сонейкам, за надвор'ем |
| Самастойная дзейнасць дзяцей | | Ілюстраваны матэрыял, альбомы па тэме «Каляды» | Слуханне музычных твораў па тэме | | Гульні-карагоды | Назіранне за надвор'ем |
| Этнакультуратворчая сумесная дзейнасць (педагогі, бацькі, дзеці) | | Правядзенне народнага свята «Калядкі»; правядзенне каляднага тыдня сям'і | | | | |
| **Тэма «Беларуская хата»** (матэрыял размяркоўваецца на два тыдні) | | | | | | |
| Сумесная дзейнасць педагога і дзяцей | Гутарка на тэмы: «Таямніцы беларускай хаты»; «Праца і адпачынак беларусаў» | Расказ аб выкарыстанні і ўжыванні хатніх рэчаў; складанне невялікіх апаведаў аб рэчах «Што рэч раскажа аб сабе?», «Адкуль да нас завіталі рэчы?»; работа з прыказкамі: «Печ у хаце – жыццё ў хаце», «Умей у госці паклікаць, умей і пачаставаць»; узбагачэнне слоўніка дзіцяці: хата, чырвоны кут (покуць), печ, лава, калаўрот, куфар, люлька, лучына; работа з загадкамі | Танцы: «Лявоніха»; беларуская народная песня «Чаму ж мне не пець» і інш. | Лепка беларускай хаты з выкарыстаннем уяўленняў аб традыцыйным спосабе пабудовы; калектыўная работа: «Беларуская вёска» | Дыдактычныя гульні: «Рознакаляровы куфэрак», «Упрыгож хатку» (прарысоўка элементаў упрыгожання), «Страчаная рэч»; сюжэтна-ролевая гульня «Кірмаш рэчаў»; народныя гульні: «Міхасік», «Апанас» і інш. | Экскурсіі ў міні-музей «Беларуская хата», краязнаўчы музей; разглядванне і параўнанне інтэр'ера традыцыйнай беларускай хаты з інтэр'ерам сучаснага дома |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Самастойная дзейнасць дзяцей | | Ілюстраваныя матэрыялы, альбомы па тэме «Таямніцы беларускай хаты» | Народныя творы для слухання | Матэрыялы для самастойнага малявання па запланаванай тэме | Розныя віды гульняў па жаданні дзяцей | Разглядванне старадаўніх прадметаў побыту |
| Этнакультуратворчая сумесная дзейнасць (педагогі, бацькі, дзеці) | | | | | | |
| **ЛЮТЫ** | | | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| **Тэма «Свет народнай гульні»** | | | | | | |
| Сумесная дзейнасць педагога і дзяцей | Гутарка на тэму «Народныя гульні ў дзіцячым садзе» | Развучванне лічылак; разглядванне малюнкаў (фотаздымкаў) з адлюстраваннем дзяцей падчас гульні; разглядванне атрыбутаў для гульняў (у залежнасці ад сезонаў) і інш. | Слуханне твораў: «Заяц і ліса» (муз. У. Буднiка, сл. У. Брусава), «Мядзведзь» (муз. У. Дарохіна, сл. В. Лукшы) і інш. | Маляванне, лепка па змесце народных гульняў; калектыўная работа: «Беларускія народныя гульні»; выраб атрыбутаў да гульняў і інш. | Гульні-карагоды «Заінька», «У садочку», «Грушка»; рухомыя народныя гульні «У мядзведзя на бару», «У Бабу Ягу»; гульні-драматызацыі «Воўк і авечкі», «У гусі» і інш. | |
| Самастойная дзейнасць дзяцей | | | | Матэрыялы для самастойнай мастацкай дзейнасці па запланаванай тэме | Гульні па жаданні | |
| Этнакультуратворчая сумесная дзейнасць (педагогі, бацькі, дзеці) | | Сумесная падрыхтоўка атрыбутаў для гульняў і драматызацыі | | | | |
| **Тэма «Гарады і вёскі роднай зямлі»** | | | | | | |
| Сумесная дзейнасць педагога і дзяцей | Гутарка на тэму: «Паходжанне назваў гарадоў і вёсак» | Гутарка: «Як з'явіліся назвы гарадоў, вёсак?»; рэбусы, шарады па тэме; літаратурныя і фальклорныя творы па тэме; У. Ліпскі, *Гарады*, «Вясёлка», 2008, № 8, с. 10-11; У. Ліпскі, *Вёскі*, «Вясёлка», 2008, № 7, с. 11; разглядванне малюнкаў і выяў беларускіх гарадоў і вёсак і інш. | Слуханне музычных твораў, дзе згадваюцца назвы вёсак і гарадоў нашай краіны | Маляванне сімвалаў гарадоў і вёсак беларускай зямлі | Гульні дыдактычныя: «Пакажы на карце», «Горад-вёска» | Даследаван-не карты раёна, вызначэнне раённага цэнтра, аналіз паходжання назваў гарадоў і вёсак раёна |
| Самастойная дзейнасць дзяцей | | Разглядванне малюнкаў і выяў беларускіх гарадоў і вёсак і інш. | | Матэрыялы для самастойнага малявання па запланаванай тэме | | Разглядванне адміністрацыйнай карты |
| Этнакультуратворчая сумесная дзейнасць (педагогі, бацькі, дзеці) | | Калектыўная праца па стварэнні калажаў «Гарады і вёскі» | | | | |

# Як навучыць

## малодшага школьніка быць даследчыкам



Алена РАДЗЕВІЧ

**Алена РАДЗЕВІЧ —** начальнік цэнтра прафесійнага развіцця і інавацыйнай адукацыі Дзяржаўнай установы адукацыі «Акадэмія паслядыпломнай адукацыі».

Для малодшага школьніка задаваць пытанні так жа натуральна, як дыхаць. Чаму на небе з'яўляецца вясёлка? Як людзі даведаліся, што адны расліны карысныя, а другія не? Што адбываецца з сонцам ноччу? Куды дзяваюцца матылі падчас дажджу? Дзеці пастаянна і актыўна даследуюць і пазнаюць свет. У жыцці пошук адказаў на актуальныя для чалавека пытанні — рухавік адкрыццяў, мыслення, творчасці, ажыццяўлення мары.

Засумаваўшы на ўроку першакласнік кладзе на новую ручку такую ж лінейку і выпрабоўвае дзеянне атрымаўшыхся вагаў з дапамогай markdown розначагаў-ластыкаў. Другі першакласнік на перапынку піша на дошцы крэйдай і тут жа выцірае напісанае мокрай губкай, назіраючы за тым, як дошка высыхае. Такіх назіранняў кожны настаўнік можа прывесці многа. І не заўсёды педагога гэта радуе, часцей наадварот, абурае, таму што мяшае весці ўрок, адцягвае ўвагу другіх дзяцей. Тое што здараецца — звычайнае праяўленне даследчых паводзін малодшых школьнікаў.

Даследчы пошук можна выкарыстоўваць пры навучанні любому вучэбнаму прадмету, пры гэтым настаўніку пачатковых класаў трэба навучыцца супрацоўнічаць з вучнем і бацькамі, а таксама вучыцца разам з імі. Даследчы пошук атрымаецца, калі намечаны напрамак, куды ісці, але кожны вучань рухаецца па ўласнай сцяжынцы. У цэнтры вучнёўскага пошуку — пытанні самога вучня. Якое б пытанне не ўзнікла ў дзіцяці, яно вельмі каштоўнае, і задача настаўніка — не даваць гатовых адказаў, а падтрымаць, дапамагчы вучням знайсці ўласныя шляхі да адказаў.

Падчас экскурсіі па горадзе група першакласнікаў захацела больш даведацца пра новы мост, які быў пабудаваны ў іх горадзе. Яны сталі задаваць пытанні настаўніку: калі і кім быў пабудаваны мост? Хто быў архітэктарам? Якая яго даўжыня і вышыня? Колькі будаўнікоў над ім працавалі? Навошта яго пабудавалі? Калі яны разгледзелі мост зблізку, іх інтарэс разгарэўся яшчэ мацней. Дзеці звярталі ўвагу на драбнейшыя дэталі збудавання і хацелі даведацца пра мост як мага падрабязней. Настаўніца запрасіла ў клас бацьку аднаго з вучняў, які працаваў у архітэктурна-будаўнічай арганізацыі. Ён пастараўся адказаць на пытанні, якія задавалі яму дзеці. Акрамя таго, ён прынёс у клас многа часопісаў па архітэктуры і будаўніцтве.

У гэтай сітуацыі вельмі важна, што вучні атрымалі адказы на пытанні з розных

крыніц інфармацыі: ад імені эксперта ў галіне архітэктуры, з часопісаў, кніг, інтэрнэту. Настаўніца спытала ў дзяцей, як можна захаваць атрыманую інфармацыю? «Мы павінны ўсе запісаць», — адказалі дзеці. З гэтага і пачалася даследчая работа.

Для эфектыўнай арганізацыі даследчай дзейнасці школьнікаў неабходна ўзаемасувязь чатырох кампанентаў:

1. Стварэнне прадметна-развіваючага асяроддзя класа.
2. Даследчая практыка дзяцей.
3. Назіранні за прасоўваннем кожнага вучня.
4. Трэнінг даследчых здольнасцей.

**Прадметна-развіваючае асяроддзе.**

Як стварыць у класе прадметна-развіваючае асяроддзе, якое будзе стымуляваць развіццё даследчых навыкаў у вучняў? Цяжка сабе ўявіць, як можна ангажаваць вучняў да пошукавай актыўнасці ў класе, дзе акрамя вучнёўскіх парт, стала і метадычных дапаможнікаў для настаўніка няма развіваючых мнагамэтавых матэрыялаў для дзяцей. Для стварэння найлепшага развіваючага асяроддзя неабходна выкананне наступных умоў:

- асяроддзе трэба ствараць такім чынам, каб дзеці не баяліся рызыкаваць у працэсе навучання, працавалі як самастойна, так і ў супрацы з другімі дзецьмі;
- фізічная прастора класа павінна дазваляць вучням вольна хадзіць па класе, заахвочваць іх рабіць выбар і актыўна вучыцца;
- выкарыстоўваць матэрыялы, якія адпавядаюць узроўню развіцця дзяцей і адлюстроўваюць гендарныя, культурныя, узроставыя асаблівасці навучэнцаў;
- заахвочваць да гульняў, эксперыментавання, даследавання з выкарыстаннем многамэтавых матэрыялаў, якія дапускаюць магчымасць творчых рашэнняў;
- выкарыстоўваць вучэбныя заданні, якія заахвочваюць дзяцей самастойна шукаць інфармацыю ў розных крыніцах (слоўнікі, энцыклапедыі, інтэрнэт і г.д.);
- выкарыстоўваць магчымасці мясцовага супольніцтва (бібліятэкі, прадпрыемствы, члены супольніцтва, грамадскія аб'яднанні, бацькі, эксперты і г.д.).

Такім чынам, стварэнне ў класе прадметна-развіваючага асяроддзя, стымулюючага даследчы пошук дзіцяці, з'яўляецца першым элементам арганізацыі даследчай дзейнасці ва ўмовах пачатковай школы.

**Даследчая практыка дзяцей.**

Добра, калі ў класе будзе арганізаваны спецыяльны «час даследавання» — частка вучэбнага дня, калі дзеці працуюць самастойна, абмяркоўваюць пытанні, якія іх насамрэч цікавяць, і даследуюць іх з розных бакоў.

Кожны даследчы цыкл можа доўжыцца ад двух да чатырох тыдняў, у залежнасці ад узросту дзяцей. Час для правядзення даследавання можа быць як мінімум 2-3 разы на тыдзень і працягвацца ад 45 мінут да гадзіны.

Разгледзім алгарытм даследчай дзейнасці ў пачатковай школе на прыкладзе даследчай работы «Электрычнасць» (могуць удзельнічаць 9-13-гадовыя вучні).

**1) Вызначэнне праблемы**. ***Мэта: выявіць праблему і кірунак будучага даследавання.***

На гэтым этапе настаўнік, ці запрошаны ў клас эксперт (настаўнік фізікі, энергетык, інжынер па ахове працы) можа расказаць пра выпадкі небяспечнага карыстання электрычнасцю, якія прывялі да пашкоджанняў, траўм. Асноўная праблема: кожны дзень мы карыстаемся электрычнасцю, не зусім разумеючы, што гэта такое.

**Рабочая гіпотэза настаўніка:**

Калі навучэнцы будуць валодаць элементарнымі ведамі аб электрычнасці, прынцыпамі працы электрычнага ланцуга, ведамі пра тое, якія матэрыялы з'яўляюцца добрымі праваднікамі, а якія ізалятарамі, гэта зможа прадухіліць няшчасныя выпадкі сярод дзяцей малодшага школьнага ўзросту.

**2) Вызначэнне сферы даследавання**. ***Мэта: сфармуляваць асноўныя пытанні, на якія дзеці хацелі б знайсці адказы***.

Наступныя некалькі дзён вучні на аснове выбранай для даследавання тэмы, рыхтуюць пытанні, якія іх цікавяць. Можа так стацца, што некаторым дзецям будзе цяжка сфармуляваць пытанне. Каб з гэтым справіцца, можна сабраць клас для размовы аб тым, як правільна сфармуляваць пытанне. Калі вучні нічога не ведаюць пра электрычнасць, можна пачаць са збору інфармацыі, а ўжо затым даць заданне на дом — прыдумаць пытанне, напісаць яго на каляровым лісточку і прыляпіць на наступны дзень на сцяну ў класе.

Прыкладныя пытанні:

- Адкуль з'яўляецца святло?
- Пры якіх умовах можа з'явіцца электрычнасць?
- Як вызначыць уласцівасць токаправодных элементаў?
- Якія матэрыялы могуць выратаваць ад паразы электрычным токам (ізалятары)? Якія матэрыялы з'яўляюцца праваднікоМ электрычнага току?
- Ці можна самім зрабіць электрычны ланцуг?
- Як запаліць лямпачку?
- Як засцерагчыся ад удару электрычным токам (тэхніка бяспекі)?
- Чаму нельга выкідаць батарэйкі?
- Што такое статычная электрычнасць?

**3) Выбар тэмы даследавання**. ***Мэта: пазначыць межы даследавання.***

Праблема электрычнасці вельмі шырокая, таму неабходна вызначыць пэўны аспект дзіцячага даследавання, які адлюстроўваецца ў тэме. Прыкладныя варыянты даследчых тэм: «Што такое электрычнасць?», «Таямніцы электрычнага ланцуга: калі лямпачка загараецца або згасае?», «Што трэба ведаць аб электрычнасці?», «Па якой дарозе бяжыць электрычны ток, ці як запаліць лямпачку?»

**4) Выпрацоўка гіпотэзы (здагадкі).** ***Мэта: распрацаваць гіпотэзу (-ы).***

Што такое гіпотэза? Гіпотэза — гэта здагадка, якая вылучаецца для тлумачэння якіх-небудзь фактараў, з'яў і працэсаў, якія трэба пацвердзіць або абвергнуць. Самая простая формула для стварэння гіпотэзы — „Калі..., то..., таму што...". Прыклады гіпотэз (здагадак):

— Калі будзем ведаць, што такое электрычнасць, то пад кіраўніцтвам настаўніка зможам зрабіць дарогу для электрычнага току і запаліць лямпачку.

— Калі ў правільным парадку злучыць усе неабходныя элементы, то можна запаліць лямпачку (бо ток бяжыць па закрытай дарожцы).

— Калі накіраваць часціцы па закрытай дарожцы (ланцугу), то можна атрымаць электрычны ток і запаліць лямпачку.

Думаю, што веды аб электрычнасці і ўменні вызначыць, які матэрыял добра праводзіць электрычны ток, а які не праводзіць, могуць дапамагчы пазбегнуць няшчасных выпадкаў.

### 5) Сістэматызацыя падыходаў да вырашэння. *Мэта: выбраць метады даследавання.*

Звяртаем увагу вучняў на гіпотэзу і задаем пытанне: як мы можам пацвердзіць нашу здагадку? (Будзем чытаць кнігі, глядзець пазнавальныя мультфільмы, спытаем у дарослых, будзем назіраць і праводзіць эксперыменты пад кіраўніцтвам настаўніка...)

Сярод метадаў можна вылучыць наступныя:

— *Вывучэнне літаратуры:*

- дзіцячыя энцыклапедыі, пазнавальная літаратура;
- медыяматэрыялы: мультфільм «Пра электрычнасць дзецям», муві мультфільмы аб электрычнасці, «Фіксікі аб электрычнасці», фільм «Калі электрычнасць бывае небяспечнай»; 10 навуковых каналаў для дзяцей — Family.by;
- адаптаваныя навуковыя артыкулы пра электрычнасць для дзяцей і г.д.

— *Сустрэчы з экспертамі: інтэрв'ю (эксперты-бацькі / электрыкі; настаўнік фізікі).*

— *Анкетаванне вучняў (актуалізацыя праблемы даследавання).*

— *Назіранні.*

— *Эксперыменты.*

### 6) Вызначэнне паслядоўнасці правядзення даследавання.

На гэтым этапе сумесна з вучнямі вырашаем, з чаго пачнем. Часцей за ўсё, для паглыблення ў тэму, мэтазгодна пачаць з вывучэння літаратуры, прагляду перадач, сустрэчы з дарослымі-экспертамі. Калі назапасім агульныя веды пра электрычнасць, прыступім да досведаў і эксперыментаў.

### 7) Збор і апрацоўка інфармацыі. *Мэта: зафіксаваць атрыманыя веды.*

### 8) Аналіз і абагульненне атрыманых матэрыялаў. *Мэта: структураваць атрыманы матэрыял.*

Гэтыя этапы прадугледжваюць паслядоўны збор інфармацыі ў спецыяльную тэчку-партфоліа.

### 9) Падрыхтоўка справаздачы. *Мэта: падрыхтаваць паведамленне па выніках даследавання.*

### 10) Прэзентацыя. *Мэта: абараніць сваю даследчую працу публічна перад аднакласнікамі, бацькамі, малодшымі школьнікамі. Адказаць на пытанні.*

Прыкладны тэкст выступлення вучня, ці групы вучняў, якія працавалі над даследаваннем:

Мая праца называецца .........................................

Яна прысвечана вывучэнню ...............................

У сувязі з праблемай у мяне ўзніклі наступныя пытанні: .......................................................

Я вылучыў здагадку (гіпотэзу) ............................

Інфармацыю для адказу на пытанні я шукаў (-ла) (дзе?) *Тут вучань пералічвае метады даследавання:*

— апытанне (каго і пра што апытваў (-ла)? ..........................................................................

— назіранне (за кім (чым) назіраў (-ла)?) ..........................................................................

— эксперымент .........................................................

— іншыя метады (якія менавіта) .....................

Атрыманыя даныя я абагульніў (-ла) і сістэматызаваў (-ла) з дапамогай (графікі, табліцы, дыяграмы, метада фішбоун, кластара, метада Карнела і г.д.).

Я прыйшоў (-ла) да наступных высноў ..........................................................................

## 11) Абмеркаванне завершанай даследчай працы.

- Што дапамагло справіцца з працай?
- Што атрымалася лепш за ўсё (горш)?
- Што было ў гэтай працы самым цяжкім, цікавым?
- Якія веды і ўменні спатрэбіліся для таго, каб справіцца?
- Што новага даведалася (-ўся)? Чаму Я навучылася (-ўся)?
- Што засталося нявысветленым?
- Ці хацелася б расказаць пра свае поспехі?

**Эксперыментаванне** (у межах даследчай дзейнасці па тэме „Электрычнасць")

**«Запальванне лямпачкі і вывучэнне праваднікоў і ізалятараў»**

*Мэты*

Вучні будуць ведаць:

- токаправодныя элементы і спажывец электрычнасці (напрыклад, лямпачка);
- што электрычнасць існуе ў цалкам замкнёных ланцугах;
- што для дзеючага электрычнага ланцуга патрэбна крыніца электрычнасці;
- вызначаць уласцівасці токаправодных матэрыялаў.

*Матэрыялы*

- Батарэйкі (6 або 1,5 вольт, у ідэале па адной на кожнага дзіцяці. Да заняткаў неабходна праверыць батарэйкі).
- Лямпачкі ад пераноснага ліхтарыка.
- Ізаляваны медны дрот з агаленымі кантактамі па 1 см з кожнага канца (драты павінны быць досыць доўгімі для злучэння электродаў батарэй).
- Заціскі («کракадзільчыкі»), патроны, кусачкі для зняцця ізаляцыі з правадоў і матэрыял для праверкі праводнасці (шкляныя шарыкі, драўляныя шарыкі, пластмасавыя крышкі, зубачысткі).
- Папяровыя талеркі для раскладкі прадметаў. Намалюйце на адным баку паперы лямпачку, якая не гарыць,

а на другім баку — лямпачку, якая гарыць і правядзіце паміж імі лінію падзелу.

**Методыка**

1. Пачніце з апытання вучняў аб тым, што яны ведаюць і што хацелі б даведацца пра электрычнасць? Можна выкарыстоўваць табліцу ВХД:

   Ведаю /
   Хачу даведацца /
   Даведаўся /

   Настаўнік запісвае выказванні вучняў у табліцу.

2. Пакажыце навучэнцам батарэйку і спытайце, ці ведаюць яны, што гэта такое і для чаго гэта трэба. Папрасіце іх прачытаць на батарэйцы яе напружанне ў вольтах. Скажыце ім, што праца з батарэйкай бяспечная, але дома эксперыментаваць з электрычнасцю небяспечна, бо ў ім нашмат больш вольт, чым у батарэйках.

3. Пакажыце драты і лямпачку і папрасіце здагадацца, што з імі можна зрабіць. Папрасіце іх запаліць лямпачку, выкарыстоўваючы толькі адзін провад і адну батарэйку.

4. Дайце дзецям магчымасць свабодна азнаёміцца з матэрыяламі. Скажыце ім, што калі провад нагрэўся, то гэта значыць, што ім удалося атрымаць энергію з батарэйкі, але толькі для проваду. Адзначце, што нагрэў проваду — дарэмная трата энергіі, таму ім варта злучыць правады па-іншаму. Калі ў некаторых не атрымліваецца, пакажыце ім, што трэба зрабіць ці прапануйце паглядзець, як гэта атрымліваецца ў іншых дзяцей.

5. Пасля таго, як усе навучэнцы справіліся з заданнем, яны павінны замаляваць тое, што ў іх атрымалася і паспрабаваць знайсці іншыя спосабы злучэння правадоў, якія прыводзяць да запальвання лямпачкі. Спытаеце, ці мае значэнне, якую частку лямпачкі яны падносяць да проваду або якую частку дроту яны выкарыстоўваюць, чаму, на іх думку, з канцоў правадоў знята ізаляцыя?

6. Пасля таго, як усе навучэнцы здолелі запаліць лямпачкі, абмяркуйце з імі слова «ланцуг» і разбярыцеся, што трэба для замыкання ланцуга.

7. Пры наяўнасці «кракадзільчыкаў» (заціскаў) і патронаў дзеці могуць паспрабаваць стварыць ланцуг з выкарыстаннем 2 «кракадзільчыкаў» і лямпачкі, устаўленай у патрон.

8. Растлумачце дзецям, што некаторыя матэрыялы праводзяць электрычнасць, а некаторыя не. Тыя, якія не праводзяць, называюць *ізалятарамі*. Ці могуць дзеці вызначыць, праводзіць той ці іншы матэрыял ток ці не? (Выкарыстоўваючы тры драты, выпрабуйце іх у ланцугу і паглядзіце, ці загараецца лямпачка). Вучні павінны выкласці на папяровую талерку ўсе матэрыялы і падзяліць іх на праваднікі і ізалятары. Папрасіце дзяцей прыдумаць правілы вызначэння ізалятараў.

9. Абмяркуйце з навучэнцамі набытыя веды аб ланцугах, праваднiках і ізалятарах.

**Ацэнка:**

1. Загаранне лямпачкі сведчыць аб паспяховым завяршэнні першага эксперыменту. На малюнках дзяцей павінны быць намаляваны поўны замкнёны ланцуг з правадамі, правільна далучанымі да батарэйкі і лямпачкі.

2. У выніку паспяховага завяршэння другога задання павінны быць

атрыманы дзве правільна падзеленыя групы прадметаў (праваднікоў і ізалятараў) і дасягнута разуменне навучэнцамі, што толькі металы праводзяць электрычнасць.

**Дадатковыя кірункі для правядзення заняткаў у межах даследчага праекта «Электрычнасць»**

1. Размовы пра тэхніку бяспекі пры працы з электрычнасцю (не дакранацца да аголенага электрычнага праваду, не граць каля сілавых ліній, не карыстацца электрапрыборамі каля вады, не перагружаць падаўжальнікі...).

2. Сумеснае складанне спісу прыбораў, якія выкарыстоўваюць батарэйкі ці электрычнасць.

3. Творчыя работы на тэму: „Якім магло быць жыццё без электрычнасці?"

4. Сумеснае абмеркаванне з навучэнцамі спосабаў эканоміі электрычнасці.

5. Эксперыментаванне з маторчыкам, зумерам і выключальнікамі для стварэння вентылятараў, элементарных механізмаў і перадатчыкаў.

6. Эксперыменты са статычнай электрычнасцю. Зарадзіце шкляную колбу, патрыце яе аб ваўняную тканіну і паглядзіце, якія матэрыялы рэагуюць на статычную электрычнасць (кавалачкі паперы, пенапласт, перац, кропелька вады будзе прыцягвацца да зараджанай колбы).

7. Разборка ліхтарыка на часткі і вывучэнне прынцыпаў яго працы. Прапануеце дзецям самім зрабіць ліхтарык з гальванічных элементаў, фальгі, гільзаў ад рулонаў туалетнай паперы і лямпачкі.

8. Выраб электрамагніта шляхам намотвання дроту вакол цвіка і замацавання канцоў дроту на батарэі, і наступнага вывучэння сувязі электрычнасці і магнетызму.

Некаторым дзецям падчас даследчай дзейнасці цяжка сфармуляваць гіпотэзы, бачыць праблемы, задаваць пытанні, шукаць інфармацыю, таму важным элементам даследчага навучання з'яўляецца **трэнінг даследчых здольнасцей**.

Аляксандр Савенкаў выдзяляе даследчыя ўменні і навыкі, неабходныя ў даследчай дзейнасці: *уменне задаваць пытанні, бачыць праблемы*, *вылучаць гіпотэзы, даваць тлумачэнні паняццям, класіфікаваць, назіраць уменні і навыкі правядзення эксперыментаў; рабіць высновы, даказваць і абараняць свае ідэі*. У гэты спіс можна дабавіць важныя *ўменні працы з рознымі крыніцамі інфармацыі*.

**Развіццё ўменняў задаваць пытанні.** У працэсе даследавання пытанні адыгрываюць адну з ключавых роляў. Пытанні вучняў звычайна разглядаюцца як форма выражэння праблемы. Пытанні накіроўваюць мысленне дзіцяці на пошук адказу і матывуюць да даследавання.

**Прыклад заняткаў па развіцці ўменняў задаваць пытанні.**

**1 клас**

Педагог сядзіць на маленькім крэсле, акружаны вучнямі 6-7 год, якія зручна ўладкаваліся на дыване.

Настаўніца просіць злучыць рукі і пажадаць адзін аднаму добрага дня. Затым гаворыць аб тым, што прынесла дзецям сюрпрыз, які ляжыць у скрыначцы.

Настаўніца просіць дзяцей задаваць пытанні, каб даведацца, што знаходзіцца

ў скрыначцы. Педагог напамінае, якое пытанне задаваць нельга. Дзеці адказваюць: «Што ляжыць у скрынцы?» Настаўніца просіць вучняў уважліва слухаць пытанні другіх дзяцей, каб потым сказаць, якое пытанне спадабалася ім больш за ўсе. Затым яна прапаноўвае ўсім хто хоча разгледзець скрынку: патрымаць яе, узважыць, патрэсці, панюхаць і г.д., перш, чым яны зададуць сваё пытанне.

Настаўніца дэманструе павагу да пытанняў дзяцей, заахвочвае іх задаваць разнастайныя пытанні пра прадмет, які знаходзіцца ў скрынцы, падкрэслівае характарыстыкі, якія дазволяць яго адгадаць.

Пасля дзеці здагадваюцца, што ў каробцы ляжыць кніга. Настаўніца адчыняе скрынку і дзеці чытаюць назву кнігі «Кніга пытанняў». Яны здзіўленыя, калі бачаць, што ў кнізе ўсе старонкі чыстыя. Што можа быць у гэтай кнізе?

Педагог падводзіць вынікі гульні. Яна гаворыць, што яны разам зрабілі адкрыццё і зрабілі гэта з дапамогай пытанняў. Даследчыкі так і робяць навуковыя адкрыцці: яны назіраюць за прадметамі і з’явамі і задаюць аб іх пытанні. Многія пытанні пачынаюцца са спецыяльнага пытальнага слова і заканчваюцца спецыяльным знакам — пытальнікам. Настаўніца раней запісала на дошцы (фліпчарце) 6 пытальных слоў і паказала дзецям: Хто? Што? Дзе? Калі? Колькі? Чаму? Гэтыя словы можна ўбачыць у такіх пытаннях: «Колькі гэта каштуе? Дзе можна гэта ўбачыць? і г.д.»

Настаўнік прапануе дзецям на наступныя 10 мінут ператварыцца ў даследчыкаў. У сваіх групах яны будуць даследаваць прадмет (гэта будзе яблык), задаючы пра яго пытанні, якія будуць пачынацца са спецыяльнага пытальнага слова, якое яны знойдуць на картцы на сваім стале. Кожная з груп запіша, па меншай меры, адно пытанне (настаўнік можа дапамагчы дзецям, якія яшчэ добра не ўмеюць пісаць) і прыляпіць яго на дошку (фліпчарт).

Настаўнік раздзяляе дзяцей на 6 груп, пры гэтым выкарыстоўвае каляровыя палоскі паперы, якія адпавядаюць картачкам на іх сталах.

У той час як дзеці працуюць над заданнем, настаўнік падыходзіць да кожнай групы і дапамагае ім лепш сфармуляваць іх пытанні і запісаць іх, калі яны яшчэ не ўмеюць пісаць. Калі ўсе пытанні размешчаны на дошцы, настаўнік просіць жадаючых прачытаць іх, пытаецца, ці лёгка было сфармуляваць пытанне. Якія пытанні былі карысныя, а якія не вельмі? Яна дапамагае дзецям зразумець, што, толькі задаючы розныя пытанні, можна атрымаць больш інфармацыі аб прадмеце, які яны даследуюць. Цяпер яны могуць пачаць пісаць першую старонку «Кнігі пытанняў» пра яблык, карыстаючыся сфармуляванымі пытаннямі.

**Развіцце ўменняў вылучаць гіпотэзы** (здагадкі). Гіпотэза — гэта меркаванне аб заканамернай сувязі з’яў. Дзеці часта выказваюць самыя розныя гіпотэзы наконт таго, што бачаць, чуюць і адчуваюць. Мноства цікавых гіпотэз нараджаецца ў выніку спроб пошуку адказаў на ўласныя пытанні. Гіпотэза — гэта прадбачанне падзей. Першае, што вымушае з’явіцца гіпотэзе — гэта праблема. Спробы праверкі гіпотэз звычайна падзяляюцца на дзве групы: тэарэтычныя і эмпірычныя. Першыя дапускаюць апору на логіку і аналіз іншых тэорый (ведаў), у рамках якіх гіпотэза вылучана. Эмпірычныя спосабы праверкі гіпотэз дапускаюць назіранні і эксперыменты. Выказваючы гіпотэзу, часцей карыстаюцца словамі: *можа быць..., дапусцім..., мяркуем..., магчыма..., што калі..., калі , то , так як.*

Можна прапанаваць заданні для трэніроўкі ўменняў выпрацоўваць гіпотэзы і розныя ідэі.

Трэба прыдумаць як мага больш гіпотэз і правакацыйных ідэй, якія тлумачылі, што б магло здарыцца, «калі б чараўнік выканаў тры пажаданні кожнага чалавека на Зямлі?»

***«Давайце разам падумаем: як птушкі пазнаюць дарогу на поўдзень?»*** Гіпотэзы: а) можа быць, птушкі вызначаюць дарогу па сонцы і зорках; б) напэўна, птушкі зверху бачаць расліны (дрэвы, траву ды інш.), яны паказваюць ім кірунак палёту; в) магчыма, у птушак ёсць унутраны прыродны компас, як у самалёце, на караблі.

***«Практыкаванне на абставіны»***. Пры якіх умовах кожны з прапанаваных прадметаў будзе карысным? Ці можаце вы прыдумаць умовы, пры якіх будуць карыснымі два ці больш з гэтых прадметаў? Прыкладныя варыянты: аловак, імбрык, апельсін, камп'ютар, папера, мабільны тэлефон.

***«Зваротнае дзеянне»***. Пры якіх умовах гэтыя ж прадметы могуць быць шкоднымі?

***«Знайдзіце магчымую прычыну падзеі»***. Назавіце два-тры фантастычных тлумачэнняў падзей: а) трава ў двары раптам пажаўцела; б) шар узняўся высока ў неба; в) зімою мядзведзь блукаў па лесе ды інш.

***«Што адбудзецца, калі ...?»*** Неабходна прапанаваць як мага больш гіпотэз і правакацыйных ідэй, якія тлумачаць што здарыцца, калі: сланы стануць менш катоў; у людзей замест 5 пальцаў стане 6; зараз пойдзе дождж; знікнуць камары, ды інш.

У працэсе трэнінгавых практыкаванняў важна выкарыстоўваць такія спосабы навучання, якія не столькі назапашваюць аб'ём ведаў, колькі развіваюць мысленне і даюць магчымасць выказваць уласныя погляды і ідэі кожнаму вучню.

У працэсе даследчай дзейнасці вучням дазволена працаваць у сваім тэмпе, выбіраць той узровень цяжкасці, які ім пад сілу, акрамя таго дэманстраваць свае бачанне свету. Усё гэта ўзмацняе ўпэўненасць вучня ў сваіх здольнасцях вучыцца, даследаваць новае і дзяліцца набытымі ведамі з іншымі дзецьмі.

**Выкарыстаныя крыніцы**

1. И. Загашев, *Умение задавать вопросы*, «Перемена», 2001, № 4.

2. Н. В. Матяш, *Психология проектной деятельности школьников в условиях технологического образования*, ред. В. В. Рубцов, Мозырь 2000.

3. А. И. Савенков, *Психологические основы исследовательского подхода к обучению: учебное пособие*, Москва 2006.

4. А. И. Савенков, *Исследовательская практика: организация и методика*, «Одаренный ребенок», 2005, № 1, с. 30-33.

5. К. Б. Уолш, *Создание класов, ориентированных на ребенка*, Минск 2001, 300 с.

6. Л. Сруогинис, *Как работать с одаренными детьми*, «Перемена», 2002, № 3, с. 14-17.

7. Д. Уайл, *Исследователь в классе*, «Перемена», 2000, № 2, с. 27-32.

# Выхаванне
## сродкамі кіно



Міхась КУДЗЕЙКА

**Міхась КУДЗЕЙКА —** дацэнт кафедры менеджменту і адукацыйных тэхналогій Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, г. Мінск, кандыдат педагагічных навук, медыяпедагог.

Лічыцца, што выхаваннем дзяцей займаецца сям'я і школа. І чамусьці, такія сродкі, як камп'ютар, інтэрнэт, тэлебачанне, рэклама, сацсеткі і г.д. не прымаюцца да ўвагі. Але дарэмна... Апошнім часам, разглядаючы гэтую праблему не толькі з боку назірання, а і з пазіцыі аналізу асабістай выхаваўчай дзейнасці, мы можам канстатаваць, што дзейнасць інтэрнэту ці сацсеткавага згуртавання дзяцей на выхаванне можа мець больш ўплыў, чым аўтарытэт бацькоў і школы. Часцей за ўсё гэта адбываецца, калі школа клапоціцца толькі аб вучэбнай паспяховасці вучняў, а бацькі разглядаюць працэс выхавання ў выглядзе наяўнасці ежы, адзення і даху над галавой, зводзячы зносіны да пытання: „як у цябе справы?", без асаблівай цікавасці да адказу з боку дзіцяці. Чалавек — асоба сацыяльная, у якой ёсць патрэба мець актыўныя зносіны і калі на дыялог не выходзяць настаўнікі або бацькі, то гэтае месца хутка займае інфармацыйная прастора ў выглядзе інтэрнэту, сацсетак і тэлебачання. У медыяпедагогіцы такі фармат зносін называецца — „паралельная школа", якая ўздзейнічае на дзяцей і падлеткаў сродкамі медыя, фармуючы ў іх веды, звычкі, адносіны да рэальнай дзейнасці, кругагляд і светапогляд. Барацьба з „паралельнай школай" праз забарону і абмежаванне зносін — бессэнсоўная, бо інфармацыйная прастора бязмежная і разнастайная ў сваіх сродках. У такім становішчы ёсць толькі адзін выхад — зрабіць „паралельную школу" сродкам навучання і выхавання. Як прыклад, разгледзім рашэнне праблемы праз выкарыстанне кінатэкстаў у выхаваўчым працэсе.

Кіно любяць усе. Папулярнасць гэтага віду інфармацыі тлумачыцца ўзнікненнем «эфекту саўдзелу і суперажывання» з героямі, фарміраваннем ацэначных адносін, даступнасцю і разнастайнасцю. Прапанаваная гледачу інфармацыя падаецца дынамічна, ярка, вобразна і пераканаўча, валодаючы высокай ступенню аўтарытэтнасці. Арганізуючы наш адпачынак або забаўляючы, кіно непрыкметна для нас з вамі ўздзейнічае на нашы погляды і звычкі; фармуе меркаванне і прадстаўленне; навучае, выхоўвае, развівае; арганізуе зносіны; фармуе светапогляд і эстэтычнае стаўленне да навакольнага свету; далучае да мастацтва. Як мы можам заўважыць, кінамастацтва валодае велізарным выхаваўчым, навучальным і развіваючым

патэнцыялам... Але, гледача неабходна навучыць глядзець, бачыць, разумець, адчуваць, суперажываць, аналізаваць і ацэньваць, што дасць магчымасць павысіць узровень культуры зносін гледача з кінамастацтвам і кінамастацтва з гледачом.

Спосабаў далучэння вучняў, настаўнікаў і бацькоў да кінамастацтва ў межах установы адукацыі можа быць некалькі. Самы просты і эфектыўны спосаб знаёмства навучэнцаў з дасягненнямі кінамастацтва можа ажыццяўляцца з дапамогай выкарыстання кінаматэрыялаў у адукацыйным працэсе школы, класа: на ўроках, выхаваўчых мерапрыемствах і ў пазакласнай дзейнасці (дыскусійны клуб, кіналекторый, вусны часопіс і г.д.). Вялікае значэнне ў павышэнні цікавасці да кінамастацтва і ведаў у галіне кінаіндустрыі будуць прадстаўляць спецыяльна арганізаваныя ўрокі, выхаваўчыя мерапрыемствы, факультатыўныя заняткі і гурткі, накіраваныя не толькі на атрыманне ведаў, але і набыццё элементарных уменняў у галіне аналізу кінапрадукцыі і яе стварэння (мультфільмы, кароткаметражныя фільмы, відэакліпы, сацыяльная рэклама і г.д.). Найбольш плённай формай далучэння дзяцей і дарослых да кінамастацтва з'яўляецца кінаклуб, які ў рамках сваіх патэнцыйных магчымасцей не толькі зможа аб'яднаць навучэнцаў, настаўнікаў, бацькоў на аснове інтарэсаў, але і забяспечыць рэалізацыю такіх функцый, як медыяадукацыя, асвета, выхаванне, сацыялізацыя і зносіны. У рамках кінаклуба ўдзельнікі будуць мець магчымасць пазнаёміцца з дасягненнямі сучаснага кінематографа і прааналізаваць вопыт мінулага; абмяняцца паміж сабой уражаннямі і пачуць меркаванні спецыялістаў; на тэарэтычным і практычным узроўні спазнаць сакрэты кінаіндустрыі; пашырыць прадстаўленне пра навакольны свет; з карысцю, цікавасцю правесці час і набыць новых сяброў, аднадумцаў.

Стварыць кінаклуб можна ў межах класа альбо школы. Для гэтага патрэбна:

- Знайсці аднадумцаў, якія падтрымаюць ідэю, дапамогуць у стварэнні і паўдзельнічаюць у правядзенні пасяджэнняў. Такімі аднадумцамі могуць быць як дарослыя (настаўнікі, бацькі), так і вучні.
- Падабраць пляцоўку для пасяджэння, якая будзе адрозніваецца ад вучэбнага пакоя і спрыяць нефармальнаму дыялогу. Памяшканне для кінаклуба павінна мець мабільную мэблю, каб ёй можна было лёгка кіраваць пры арганізацыі групавой ці калектыўнай дзейнасці.
- Набыць абсталяванне, якое дазволіць удзельнікам пасяджэнняў глядзець кіно ў добрай якасці і з добрым гукам.
- Падабраць актуальны і цікавы для вучняў рэпертуар фільмаў і тэматыку пасяджэнняў. Для гэтага патрэбна ў класе (школе) правесці апытанку і даведацца, што глядзяць вучні, якія жанры і тэмы для іх з'яўляюцца цікавымі.
- Напісаць сцэнарый пасяджэння, які ў сваёй структуры змяшчае ўступную гутарку, прагляд медыятэксту, абмеркаванне, выкананне творчага задання.
- Запрасіць вучняў (настаўнікаў, бацькоў) і... правесці мерапрыемства.

Паважаныя настаўнікі, у гэтай нялёгкай, але вельмі цікавай і карыснай справе мы вам крышачку дапаможам, прапанаваўшы распрацаваны сцэнарый пасяджэння выхаваўчага (пазакласнага) мерапрыемства ў фармаце кінаклуба.

**ТЭМА ПАСЯДЖЭННЯ:**

**ЛЮДЗІ З АБМЕЖАВАНЫМІ МАГЧЫМАСЦЯМІ... ХТО ЯНЫ ???**

***Мэты:*** *задумацца і, магчыма, змяніць сваё меркаванне пра тое, што чакаюць ад нас людзі з абмежаванымі*

*магчымасцямі; задумацца і, магчыма, змяніць сваё меркаванне пра тое, чым мы можам дапамагчы людзям з абмежаванымі магчымасцямі; зламаць стэрэатып уяўленняў пра чалавека з фізічнымі недахопамі, як чалавека з абмежаванымі магчымасцямі; зразумець, што чалавекам з абмежаванымі магчымасцямі з'яўляецца не той, хто мае нейкія фізічныя недахопы і абмежаванні, а той, хто не выкарыстоўвае свае магчымасці ў поўнай меры.*

***Абсталяванне:*** *мультымедыйная ўстаноўка, прэзентацыя, кароткаметражны відэафільм «Цырк матылькоў»; лісты паперы фармату А-3, маркеры, каляровая папера, клей, нажніцы, глянцавыя часопісы, гуашавыя фарбы, пэндзаль.*

***УСТУПНАЯ ГУТАРКА***

*Уступная гутарка праводзіцца з дапамогай пытанняў, адказы на якія абмяркоўваюцца прысутнымі.*

**Вядучы:**

- Людзі з абмежаванымі магчымасцямі, хто яны?
- Якія вы выпрабоўваеце пачуцці, калі сустракаеце гэтых людзей?
- Як вы думаеце, а якія ў іх пачуцці, калі яны сустракаюцца з намі?
- Дзе мы часцей за ўсё іх сустракаем?
- Што мы можам пра іх сказаць?
- Як мы можам ім дапамагчы?
- Чаго яны чакаюць ад нас?

**Вядучы:** Зараз мы з вамі паглядзім кароткаметражны фільм «Цырк матылькоў». Звычайна, аўтары закладваюць у назву сутнасць фільма. Але, не спяшаецеся выбудоўваць здагадкі, так як вобразнасць назвы можа адвесці вас далёка ўбок. Давайце паспрабуем спрагназаваць сюжэт фільма па выказваннях герояў фільма *(гэты прыём выкарыстоўваецца з мэтай падрыхтоўкі ўдзельнікаў да прагляду даволі эмацыйна складанага зместу кінастужкі):*

*«Сапраўднае вычварэнства прыроды. Чалавек, калі можна яго так назваць, да якога нават Бог павярнуўся спінай!»*

*«Ты - неверагодны цуд.»*

*«...усюды прыходзяць глядзець на нас»*
*«І чаму яны прыходзяць?»*

*«Спадарства, нам з вамі, як і гэтаму свету неабходны маленькі цуд!»*

*«Таму што ты сам паверыў у гэта...»*

*«Але калі ты здолееш разглядзець прабліскі сапраўднай прыгажосці... Я абяцаю, ты хутка пераўтворышся...» «Але яны ж не падобныя на мяне?» «Так, а значыць, у цябе ёсць перавага...»*

*«Бо чым складаней барацьба, тым больш значная перамога.»*

**Вядучы:** Як вы думаеце, аб чым фільм? Паспрабуйце вызначыць асноўную ідэю гэтага фільма. У чым яна?

*Удзельнікі выказваюць свае меркаванні.*

***ПРАГЛЯД ФІЛЬМА****:*

*Прагляд без перапынку*

**flash-player.net/video/rUT17f2HVRE/«цырк-матылькоў»-фільм-натхненне.html**

***АНАЛІЗ ФІЛЬМА***:

**Вядучы**: Пагаворым пра вас.

- З якімі пачуццямі вы пачыналі глядзець гэты фільм? Ці змяніліся

пачуцці, бліжэй да канца фільма? Чаму адбылася трансфармацыя пачуццяў?

Пагаворым пра галоўнага героя.

- Чаму Уіл апынуўся ў «Шоу вырадкаў»?
- Якія ў яго былі чаканні ў адносінах да сябе ад людзей, якія знаходзіліся вакол яго?
- Чаму ён сышоў з «Шоу вырадкаў»?
- Што прымусіла яго змяніць свае чаканні, у адносінах да сябе, ад людзей, якія знаходзіліся вакол яго?
- Што зрабіла няшчаснага чалавека шчаслівым?
- Хто яму ў гэтым дапамог?
- Чаму пасля выступу Уіла, хлопчык-інвалід падзякаваў яму?

Пагаворым аб тых, хто знаходзіўся побач.

- На якія дзве катэгорыі можна падзяліць людзей, якія знаходзіліся побач з Уілам?
- Прадстаўніком якой катэгорыі з'яўляецца дырэктар «Цырка матылькоў»?
- Якую ролю ён адыграў у лёсе Уіла і іншых людзей?
- У чым яго адметнасць, як Чалавека?

Пагаворым пра ідэю аўтараў.

- Якой праблеме прысвечаны гэты фільм?
- Ці актуальная гэтая праблема ў сучасным свеце?
- Якую ідэю хацелі данесці да гледача аўтары фільма?
- Якія для гэтага яны выкарыстоўвалі сродкі? (святло, музыка, кадр, сімвалы і знакі)
- Якую ролю ў рэалізацыі сваёй ідэі яны адвялі Уілу?
- Якую ролю ў сваёй ідэі яны адвялі дырэктару цырка?
- Якую ролю яны адвялі назве фільма?
- Якая з фраз пачутых вамі ў фільме можа стаць слоганам да фільма?

**Слоган — рэкламны лозунг, дэвіз, скіраваны на стварэнне іміджу фірмы ці рэкламы тавару. Уяўляе сабою сціснутую і лёгка ўспрыманую фармулёўку рэкламнай ідэі.*

Пагаворым аб выхаваўчай каштоўнасці дадзенага фільма.

- Які ўрок нам паказаў Уіл?
- Людзі з абмежаванымі магчымасцямі... Хто яны?

***ТВОРЧАЕ ЗАДАННЕ:***

**Вядучы:** Сябры, кожны фільм мае свой твар. Рысы гэтага фільма — адметныя, яркія і выразныя. Рэалізуючы творчую справу ў групах, вам неабходна стварыць рэкламны плакат для гэтага фільма, перадаўшы ў выяве яго сутнасць і галоўную ідэю, так, каб гэта вызвала цікавасць у гледача.

*Вучні ў групах ствараюць плакат у тэхніцы калажу, на аснове малюнкаў і выразак з часопісаў. Выкарыстоўваць слоганы.*

Прэзентацыя рэкламных плакатаў.

# У нагу з часам ці на крок наперадзе

Сучасны настаўнік — абавязкова медыяпедагог! Але, каб вучыць іншых, трэба дасканала валодаць ведамі і ўменнямі самому.



Святлана ЛОКІС



Святлана ІВАНЮШЫНА

**Святлана ЛОКІС —** настаўніца пачатковай школы № 17 г. Барысава, настаўнік-метадыст.

**Святлана ІВАНЮШЫНА —** настаўніца пачатковай школы № 1 г. Лагойска, магістар педагагічных навук.

Інтэрнэт, сацыяльныя сеткі, месенджэр, Ютуб, QR-коды, гаджэты, відэагульні, смс-паведамленні ...

Медыясвет, які займае і які немагчыма прадказаць, які натхняе і раздражняе, які пацяшае і захапляе, з аднаго боку важны, а з іншага — не мае пэўнай мэты, які выклікае прывыканне і, часам, пужае. Ён фарміруе наша грамадства, культуру і нават наша ўяўленне аб рэальнасці.

Сучаснае пакаленне расце і развіваецца ва ўнікальны перыяд сусветнай гісторыі. Ні адно папярэдняе не сутыкалася з такім імклівым надыходам *медыяпаведамленняў*. Яны належаць пакаленню, якое больш кампетэнтнае ў медыясферы, чым папярэдняе. *Аднак менавіта сучасным падлеткам неабходна дапамога ў апрацоўцы бесперапыннага патоку інфармацыі: як фільтраваць і аналізаваць яе.* Бо медыяпаведамленні ўплываюць на нашы думкі, жыццёвыя ўстаноўкі і дзеянні. Розныя сферы медыя могуць аказаць уплыў на любога чалавека, таму СМІ з'яўляюцца такой магутнай культурнай сілай, а медыяіндустрыя — такім буйным бізнесам.

Навіны, дакументальныя фільмы і кнігі навуковага зместу прэтэндуюць на тое, каб лічыцца праўдзівымі, а рэклама спрабуе навязаць нам куплю пэўнага тавару. Для дасягнення гэтых мэт у дадзеных медыяпрадуктах выкарыстоўваецца мова перакanання, асаблівыя тэхнікі, напрыклад, такія, як ліслівасць, страх, паўторы, прыхаваная ці яўная маніпуляцыя, гумар ...

Кожны з нас па-свойму тлумачыць медыяпаведамленні, якія СМІ спрабуюць данесці да нас, у залежнасці ад нашых ведаў, жыццёвага вопыту, каштоўнасцей і перакананняў.

Найбольш уразлівымі з'яўляюцца дзеці, бо яны, як ніхто, паддаюцца ўплыву інтэрнэту, таму медыяадукацыя ўжо даўно ўкаранілася ў адукацыйныя сістэмы многіх краін свету. Паўстала неабходнасць у вырашэнні яшчэ адной важнай задачы сучаснай школы — выхаваць медыйна адукаваную асобу, здольную крытычна ўспрымаць, апрацоўваць і выкарыстоўваць паток інфармацыі з мэтай супрацьстаяць яе негатыўнаму ўплыву на чалавечыя ўчынкі, погляды і паводзіны. Практычныя заняткі праводзяцца ў навучальных установах на ўсіх ступенях адукацыі і маюць галоўную мэту — з ранняга ўзросту не толькі палепшыць навык крытычнага ацэньвання і аналізу інфармацыі, але і навучыць ствараць свае медыяпрадукты, якія могуць дапамагчы ўключэнню ў жыццё грамадства і зносінам.

Сусветная арганізацыя ЮНЕСКА распрацавала міжнародныя медыяадукацыйныя стандарты і праграму навучання педагогаў: «Медыйная і інфармацыйная пісьменнасць: праграма навучання педагогаў» (ЮНЕСКА, 2012). У рамках рэалізацыі Праграмы ЮНЕСКА «Інфармацыя для ўсіх» таксама распрацаваны «Каталог медыйных і інфармацыйных навыкаў», дзе прадстаўлены ключавыя (базавыя) навыкі выкарыстання інфармацыі ва ўсіх яе формах, аб'яднаныя ў рамках сістэмнага падыходу да канцэпцыі медыйна-інфармацыйнай пісьменнасці. Каштоўнасць гэтага выдання ў тым, што ў ім разглядаюцца ўсе ўзроставыя групы ў рамках фармальнай адукацыі (ад школьнікаў да студэнтаў) і навучання на працягу ўсяго жыцця.

Праграма навучання навучэнцаў медыйнай і інфармацыйнай пісьменнасці на кожнай ступені адукацыі мае свае асаблівасці, таму ў дадзеным артыкуле мы прапануем разгледзець толькі некаторыя прыёмы, якія стасуюцца ў выкарыстанні на пачатковым этапе аваладання вучнямі малодшых класаў навыкаў медыйнай пісьменнасці і развіцця крытычнага мыслення.

Для першаснага ўвядзення вучняў у тэму медыя ўкраінскія калегі прапануюць наступны прыём «Ежа / медыяежа». Сутнасць яго ў тым, што навучэнцы шукаюць адказы на пытанні, напрыклад:

| **Знаёма** | **Незнаёма** |
|---|---|
| ***Ежа*** | ***Медыяежа*** |
| Якая ежа падабаецца дзецям? Дарослым? | Якая МЕДЫЯежа падабаецца дзецям? Дарослым? |
| Ці ўся ежа карысная? | Ці ўся МЕДЫЯежа карысная? |
| Што такое атручванне? Яго прыкметы? | Што такое МЕДЫЯатручванне? Яго прыкметы? |
| Ці можна ежай атруціцца? | Ці можна МЕДЫЯежай атруціцца? |
| Чаму для адных людзей ежа смачная, а для іншых нясмачная? | Чаму для адных людзей МЕДЫЯежа смачная, а для іншых нясмачная? |
| Ці чулі вы пра пераяданне? Што здарыцца, калі чалавек пераесць? | Ці чулі вы пра МЕДЫЯпераяданне? Што здарыцца, калі чалавек пераесць МЕДЫЯ? |
| Што такое голад і якія яго наступствы? Ці можа голад быць карысны? | Што такое МЕДЫЯголад і якія яго наступствы? Ці можа МЕДЫЯголад быць карысны? |
| Што такое вітаміны? У якіх прадуктах шмат вітамінаў і чым яны карысныя? | Што такое МЕДЫЯвітаміны? У якіх прадуктах шмат МЕДЫЯвітамінаў і чым яны карысныя? |
| Раскажыце, як у вашай сям'і клапоцяцца аб якасным харчаванні? | Раскажыце, як у вашай сям'і клапоцяцца аб якасным МЕДЫЯхарчаванні? |

**Праца з відэаматэрыяламі.**

***Параўнанне літаратурнага героя з анімацыйным аналагам па алгарытме на прыкладзе казкі Эдуарда Успенскага «Дзядзька Фёдар, пёс і кот» і мультфільма «Трое з Прастаквашына».***

Казка — літаратурны твор, а мультфільм — адзін з жанраў кінематографа. Змест казкі ўспрымаецца ў вобразах, створаных словамі, а асаблівасць мультыплікацыйных фільмаў — у іх зрокавым успрыманні. У мультфільме прадстаўленыя не толькі казачныя, але і спецыяльна створаныя сюжэтныя калізіі, адпаведныя дынаміцы таго, што адбываецца на экране. Таму дзецям прапануецца прааналізаваць падабенства і адрозненні, адзначыць тое, што ўласціва аднаму і не ўласціва другому твору.

Напрыклад, неабходна адзначыць падабенства і адрозненні, назіраючы за героямі (апісанне, характар, гаворка, учынкі), сцэнай (месцам дзеяння), словамі аўтара. Фіксаваць вынікі можна па алгарытме:

Алгарытм параўнання:

| **Параўнанне назваў** | **Літаратурная казка «Дзядзька Фёдар, пёс і кот»** |
|---|---|
| **Уступная частка** | Тэкст пачатку казкі: для чаго ён? |
| **Выказванні ката пры знаёмстве** | Пісьменнасць мовы. Ці называе кот сваё імя? Як кот навучыўся гаварыць? |
| **Запрашэнне жыць да Дзядзькі Фёдара** | Хто стаў ініцыятарам запрашэння? |
| **Паводзіны ката ў кватэры** | Чым займаўся кот у Дзядзькі Фёдара? |
| **Вяртанне бацькоў** | Як з дапамогай слоў мама прадэманстравала свой характар? Што вы можаце сказаць пра характар таты? |
| **Як Дзядзька Фёдар з дома сышоў** | Як аўтар падкрэслівае, перакананасць бацькоў у тым, што іх сын не аслухаецца? Як хлопчык падрыхтаваўся да зыходу з дому? |

Дадатковыя пытанні:

- Што здалося вам больш інфарматыўным: казка або мультфільм? Чаму?
- З дапамогай чаго аўтары прыцягваюць нашу ўвагу да сюжэту літаратурнай казкі і да сюжэту мультфільма?

***Агучванне (вядомага) відэа на прыкладзе мультфільма «Чабурашка і кракадзіл Гена».***

Дзецям неабходна з дапамогай тэксту данесці сэнс медыякантэнту да гледачоў (аднакласнікаў). У ходзе агучкі дзеці вучацца слухаць адзін аднаго, своечасова ўступаць у дыялог, вытрымліваць паўзы, падбіраць рэплікі, адпаведныя працягласці фрагмента, міміцы і характару героя. Вітаецца, калі хлопцы складуць свой, адрозны ад аўтарскага дыялог.

*Этапы работы:*

1. *Падбор фрагмента мультфільма. Прагляд. Абмеркаванне.*

*Напрыклад:*

- *У пачатку мультфільма ў прадаўца і пакупніка няма слоў. Ці можна іх даць? Пра што будуць размаўляць персанажы? З дапамогай якіх слоў*

*можна найлепшым чынам данесці сэнс фрагмента?*

- *Які па характары Чабурашка? Якой сілы голас павінен быць у яго, на ваш погляд?*
- *Як вы думаеце, што сказаў прадавец вартаўніку заапарка? З якой інтанацыяй ён гаварыў?*

2. *Вызначэнне герояў. Выбар групы для агучкі.*

   *Героі:* прадавец, пакупнік, вартаўнік, Чабурашка, загадчык крамы.

3. *Стварэнне тэкставага матэрыялу мультфільма.*

   Для кожнага героя прапісваецца рэпліка ў адпаведнасці з сюжэтам і інтэрвалам часу.

4. *Размеркаванне роляў у адпаведнасці з характарам герояў.*

   Падбор акцёраў у адпаведнасці з магчымасцямі перадачы тэмбру і настрою персанажа, характараў герояў.

5. *Калектыўная праца над тэкставым матэрыялам (адпрацоўка інтанацый, тэмпу, паўзаў).*

6. *Агучванне мультфільма.*

7. *Прагляд. Абмеркаванне вынікаў. Самаацэнка.*

Напрыклад:

- Якія зрокавыя вобразы дапамагалі вызначыць тэмбр і характар героя?
- Ці атрымалася гэта перадаць у агучцы?
- Што было самым цяжкім у працэсе працы над роляй?
- Што ўдалося лепш за ўсё?

У інтэрнэце ў вялікай колькасці можна знайсці кароткія анімацыйныя фільмы без слоў, напрыклад, «Мост» https://youtu.be/BJnLeZzSVZM, «Piper» https://youtu.be/9JIy0HbRTpM, «Забяры мяне дадому» https://youtu.be/FXcusBFg83w?list=RDBJnLeZzSVZM, «Каманда» https://youtu.be/NvfzlGu0jTs?list=RDBJnLeZzSVZM і многа інш. Усе вышэйпералічаныя заданні прыняюцца і да такога роду мініяцюр. Выкарыстанне кароткіх анімацыйных фільмаў з'яўляецца выдатным сродкам для інтэрпрэтацыі, аналізу, стварэння ўласнага тэксту: напісанне сцэнарыя, дыялогаў, маналогаў герояў, агучванне сюжэту, сінхронны каментарый убачанага, складанне аповеду па дадзеным сюжэце, сачыненне-разважанне і да т.п.

На наш погляд, каштоўнасць такога медыяпрактыкавання заключаецца ў набыцці навучэнцамі навыку і ўменняў разглядаць мультфільмы не толькі з пазіцыі забавы, але і з мэтай разгадвання «зашыфраваных» у відэа жыццёва актуальных пасланняў (месыджа). Пасыл: «*Умей бачыць малое, каб не прапусціць галоўнае!*».

**Фотаздымкі, малюнкі**

***1. Прыёмы працы з фотаматэрыяламі.***

Праца з такімі медыясродкамі як фатаграфія, малюнак мае свае асаблівасці з пазіцыі медыяадукацыі. Асноўныя жанры здымкаў, з якімі можна працаваць на ўроках — партрэт, нацюрморт, пейзаж, жанравы здымак, бо за імі стаяць нейкія гісторыі, там ёсць, пра што расказваць, у іх ёсць дзеянне. Дадзеную працу лепш пачаць з разглядвання сямейных фотаздымкаў — бо ўсё, што важна для асобы, першапачаткова ўспрымаецца больш уважліва. Папрасіце вучня падрабязна апісаць усё, што ёсць на фотаздымку,

патлумачыць, дзе і з якой нагоды ён быў зроблены, хто здымаў, якое пачуццё ён выклікае.

Пасля працы з фотаздымкамі з сямейнага альбома лягчэй перайсці да іншых, надрукаваных у часопісах, газетах.

Вельмі добра, калі навучэнцы будуць рабіць самастойна здымкі, у такім выпадку яны змогуць на ўласным вопыце пераканацца, як няпроста зрабіць цікавую фатаграфію. Параўнаць здымкі навучэнцаў, вывесіць іх у класе для разглядання і абмеркавання, разважаць з нагоды іх зместу (хто і пры якіх умовах быў зняты, што гэта за чалавек, які яго характар, чым ён займаецца і г.д.) — усё гэта дапамагае выклікаць цікавасць да мастацтва фатаграфіі, паказаць, як многа інфармацыі яна нясе.

Але, каб правільна разгадаць месыдж дадзеных сродкаў, недастаткова проста разгледзець захаваны сюжэт або прадмет, бо часта зрокавыя выявы адводзяць нас ад праўды ці скажаюць факты. Таму трэба вучыць дзяцей *дэкадаванню фотаматэрыялаў з дапамогай пошуку праўдзівых крыніц у сетцы інтэрнэт*.

*Прыклад пытанняў для дэкадавання дакументальнага фотаматэрыялу:*

- Для каго зроблена фота? *(Здагадка)*
- Хто яго аўтар? *(Пошук адказу ў інтэрнэце)*
- Чаму Вы выбралі менавіта гэтае фота?
- Што здарылася непасрэдна да і пасля моманту здымкі фота? *(Пошук інфармацыі ў інтэрнэце ці іншых крыніцах)*
- Чаму выгадна нам паказваць менавіта гэты ракурс фота? *(Здагадка, разважанне)*

***2. Прыдумаць і напісаць загаловак да фота або малюнка.***

У класе вывешваецца фота ці малюнак. На працягу некалькіх дзён навучэнцы запісваюць на чысты ліст, размешчаны побач, свае варыянты загалоўка. На класнай або інфармацыйнай гадзіне праводзіцца аналіз дадзенай работы па меркаванні настаўніка.

***3. Распазнаванне фэйку: знайдзі непраўдзівую інфармацыю на малюнку.***




***Адгадка:*** на календары 31 чэрвеня. У чэрвені 30 дзён.

- Пілот зрабіў сэлфі падчас рэйса.

Задайце вучням пытанне: Нешта не так?



- А тут што не так?



***4. Праца з малюнкам. Развіццё ўвагі, назіральнасці, лагічнага мыслення вучняў.***

*Малюнак з пытаннямі* вывешваецца на бачным месцы ў класе, навучэнцы на працягу некалькіх дзён разглядваюць, абмяркоўваюць, аналізуюць, прапануюць версіі, потым праводзіцца сумесная работа па знаходжанні правільных адказаў.

**Гледзячы на малюнак, адкажыце на наступныя пытанні:**

1. Колькі турыстаў жыве ў гэтым лагеры?
2. Калі яны сюды прыехалі: сёння або некалькі дзён назад?
3. На чым яны сюды прыехалі?
4. Ці далёка ад лагера да бліжэйшага паселішча?
5. Адкуль дзьме вецер: з поўначы ці поўдня?
6. Які цяпер час дня?
7. Куды сышоў Шура?
8. Хто ўчора быў дзяжурным (назавіце па імені)?
9. Якое сёння чысло якога месяца?

**Адказы:**

- Чацвёра. Калі прыгледзецца, можна заўважыць: сталовых прыбораў на 4 персоны, і ў спісе на дзяжурства — 4 імені.
- Не сёння, мяркуючы па павуціне паміж дрэвам і намётам, хлопцы прыехалі некалькі дзён таму.
- На лодцы. Каля дрэва стаяць вёслы.
- Не. На малюнку ёсць курыца, значыць, дзесьці побач паселішча.
- З поўдня. На намёце ёсць сцяжок, па якім можна вызначыць, адкуль дзьме вецер. На малюнку ёсць дрэва: з аднаго боку галінкі карацей, з другога даўжэй. Як правіла, у дрэў з паўднёвага боку галінкі даўжэй.
- Раніца. Па папярэднім пытанні мы вызначылі, дзе поўнач-поўдзень, цяпер можна зразумець, дзе ўсход-захад, і паглядзець на цені, якія адкідаюць прадметы.
- Ён ловіць матылькоў. З-за палаткі бачны сачок.
- Коля. Сёння Коля нешта шукае ў заплечніку з літарай «К», Шура ловіць матылькоў, а Вася фатаграфуе прыроду (таму што з заплечніка з літарай «В» бачны штатыў ад камеры).

- Значыць, сёння дзяжурыць Пеця, а ўчора, паводле спісу, дзяжурыў Коля.

- 8 жніўня. Мяркуючы па спісе, раз сёння дзяжурыць Пеця, то лік — 8. А паколькі на паляне ляжыць кавун, значыць, жнівень.

**Артыкулы, відэанавіны розных крыніц.**

***1. Прыдумаць загаловак артыкула (твора, які вывучаецца) і параўнаць з арыгіналам.***

Навучэнцам у групах або парах прапануецца прачытаць артыкул, абмеркаваць яго, прыдумаць загаловак. Далей навучэнцам прапануецца параўнанне і аргументаванасць свайго варыянту з аўтарскім.

***2. Параўнанне падачы адной навіны з розных крыніц СМІ.***

Напрыклад, газетнага артыкула і тэле- або радыёнавіны:

- Форма падачы навіны.
- Хто гэтую навіну нам распавядае?
- Навошта нам дадзеная навіна?
- Ці выкарыстоўвае дыктар міміку твару для перадачы навіны?
- Ці суправаджаецца навіна відэа ці фотапацвярджэннем?
- Ці адпавядае фота (відэа) навіне? Чаму?
- Што ў фота (відэа) пацвярджае тое, што кажа дыктар?
- А якія сродкі пры гэтым выкарыстоўвае аўтар артыкула для прыцягнення цікавасці чытачоў? і да т.п.

***3. Разрэзаныя і змешаныя два часопісныя (газетныя) артыкулы прапанаваць скласці ў правільным парадку і папрацаваць над іх зместам.***

***4. Знайсці ў артыкуле (відэа) словы або моманты, выкарыстаныя з загадзя маніпулятыўнай мэтай,*** г.зн. тыя, якія выкарыстоўваюцца для ўзмацнення эмацыйнага ўздзеяння і пераканання чытача, але не пацверджаны пэўнымі фактамі *(напрыклад, самы лепшы, усімі прызнаны і вядомы вучоны (лекар і г.д.), неперАўзыдзены, рэвалюцыйны, «толькі ў нас і толькі цяпер», «спяшайцеся рабіць пакупкі», «УСЕ беларусы любяць бульбу», «калі вам не спадабаецца, то мы вернем грошы», «навошта плаціць больш, праверым ЗВЫЧАЙНЫ парашок і наш сродак» і да т.п.)*

***5. Акцыя «Лаві памылку»,*** падчас якой ствараюць «банк памылак», «злоўленых» у інтэрнэце, у СМІ, у гарадскіх аб'явах *(той, хто знайшоў, павінен зрабіць скрыншот інтэрнэт-старонкі, фатаграфію газетнага/часопіснага артыкула, аб'явы).*

**Сродкі медыя, якія акружаюць нас у побыце.**

***1. Прыём працы з цэннікамі ў краме як з медыятэкстам:***

Навучэнцам важна ўмець аналізаваць дадзены тэкст, вылучаць яго лікавыя даныя, праводзіць вылічальныя і параўнальныя аперацыі. Бо дадзеныя навыкі патрэбныя не толькі пры вывучэнні прадмета «матэматыка», але і ў паўсядзённым жыцці.



- Пра што нам кажа медыятэкст цэннікаў?
- Якія колеры абраныя для ўпакоўкі і чаму?
- З якой мэтай на цэнніку намаляваныя зорачкі? Што можа азначаць колькасць зорачак і чаму яна не супадае з лічбай?
- Дакажы, варта ці не давяраць дадзенаму рэйтынгу?
- Дзе на ўпакоўцы змяшчаецца важная інфармацыя аб дадзеным прадукце?
- Як і чаму яна адрозніваецца ад знешняга боку абгорткі?
- Чаму тавар у краме на прылаўку выстаўлены «знешнім» бокам? Якое яго афармленне?
- Чаму гэты бок так названы, і якое гэта мае значэнне для продажу прадукту?
- Вылічыце: якая колькасць пірожных змяшчаецца ў вялікім пачку. Колькі каштуе адно пірожнае з вялікага пачка?
- Што купіць больш выгадна: вялікі пачак або столькі ж пірожных, але паштучна?
- Які прадукт абраў бы ты? Чаму?

***2. Работа над дэкадаваннем рэкламы:***

- Хто можа быць заказчыкам гэтай рэкламы?
- Які прадукт рэкламуюць спажыўцу?
- На які ўзрост спажыўца разлічана рэклама?
- Хто (або што) нам рэкламуе дадзены тавар? Чаму менавіта ён выбраны ў якасці героя рэкламы?
- Чаму менавіта так выглядае галоўны герой?
- Якія жэсты і міміка галоўнага героя прыцягваюць нашу ўвагу і якая іх роля ў рэкламе тавару?
- Што вас адразу прыцягнула ў рэкламе?
- Якія яшчэ сродкі выкарыстоўвалі аўтары, каб прыцягнуць нас да тавару? *(Абаяльная ўсмешка, прыемная музыка, яркія фарбы, прыгожая прырода, дружная сям'я, здаровы лад жыцця, моднае адзенне (аўтамабіль), смех, гумар ці перасцярога ад чагосьці непрыемнага, напрыклад, з'явіцца карыес і г.д.)*
- Ці выкарыстоўвае аўтар рэкламы словы? Калі так, то які сэнс у іх закладзены, калі слоў няма, то чаму аўтар рэкламуе гэты тавар без іх?

***3. Стварэнне рэкламнага роліка*** да вывучанага твора з выкарыстаннем магчымасцей кінематографа або рэкламы твора, падзеі, фатаграфіі, свайму класу славесна або з дапамогай агітацыйнага плаката, слогана, сінквейна і да т.п.

*Папярэдняя праца:*

- дайце найбольш дакладнае тлумачэнне слова «рэклама» з выкарыстаннем слоўнікаў і матэрыялаў у інтэрнэце. *(Рэклама — гэта абвестка рознымі спосабамі для стварэння шырокай вядомасці каму-чаму-небудзь з мэтай прыцягнення спажыўцоў, гледачоў і т. п.)*
- вылучыце асноўныя ўласцівасці рэкламы *(кідкая, гучная назва; яркае афармленне; уздзеянне на эмоцыі; агітацыя, прыцягненне ўвагі, сцісласць і г.д.)*

- чым рэклама адрозніваецца ад кароткага апісання?

*Патрабаванні да стварэння рэкламы:*

- Кідкая, інтрыгуючая назва *(якая прыцягвае ўвагу).*
- Нестандартная форма для падачы інфармацыі *(зварот да спажыўца).*
- Сцісласць.
- Адраснасць.
- Прызыўнасць.

Калі вы зацікавіліся тэмай медыяадукацыі і хочаце глыбей разабрацца ў гэтым пытанні, знайсці рэкамендацыі і матэрыялы, якія дапамогуць арганізаваць дзейнасць на вашым уроку або занятку, то можаце звярнуцца да кнігі «*Медыяадукацыя ў школе: фарміраванне медыяпісьменнасці вучняў» (дапаможнік для настаўніка).* Яна была створана беларускімі экспертамі ў галіне медыяадукацыі і студэнтамі дыстанцыйнага курса, у ім змяшчаецца тэарэтычны і практычны матэрыялы ў дапамогу настаўніку. Кнігу можна спампаваць, перайшоўшы па спасылцы:

http://www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/mediaeducation-by_0.pdf

**Медыяадукацыя** — не трэнд і не мода, а рэалізацыя натуральнай тэндэнцыі развіцця сучаснага грамадства. Яна з'яўляецца адной з найважнейшых кампетэнцый сучаснага выпускніка.

Не так важна ісці ў нагу з часам, у якім ты існуеш, правільней быць на крок наперадзе.

**Сцэнарыі ўрокаў** Мая Радзіма - Беларусь — IV клас



Святлана ІВАНЮШЫНА

# Тэма: КНЯЗЁЎНА З ТРЫМА ІМЁНАМІ

**Мэта ўрока:**

вучні будуць ведаць імёны гістарычных асоб: Рагвалод, Рагнеда, Яраполк, Уладзімір, Ізяслаў; змогуць растлумачыць, чаму Рагнеду называюць „Князёўна з трыма імёнамі", змогуць прывесці факты з жыцця Рагнеды і на іх аснове прааналізаваць яе лёс і характар, змогуць даказаць, якія віды медыя носяць больш верагодны характар.

**Ключавое пытанне:**

Якія віды медыя больш праўдзіва дапамогуць нам разгадаць гістарычную загадку: чаму дзяўчыну называюць „Князёўна з трыма імёнамі"?

**Мэта на мове вучняў:**

на ўроку вы прааналізуеце жыццё і дзейнасць полацкай князёўны Рагнеды, даведаецеся, чаму яе называюць „Князёўна з трыма імёнамі", паспрабуеце выявіць, якія медыятэксты дапамогуць вам найбольш дакладна раскрыць характар і лёс гераіні.

**Медыямэта:**

вучыцца параўноўваць медыяпасланні рознага характару і адрозніваць праўдзівую інфармацыю ад няпраўдзівай.

**Абсталяванне:**

прэзентацыя https://drive.google.com/open?id=1RgTsdblH7RI5CjWMDkaz-ZWCwRxlNTpSe, фрагмент відэафільма „Вікінг" https://drive.google.com/open?id=1lQI474y79IbJhM5DSA4FSpRXwJ7_hG4A, малюнкі — партрэты князёўны, табліцы для „тэкставых пазлаў", фотаздымкі герояў фільма „Вікінг" з подпісамі „Рагнеда", „Уладзімір" на адваротным баку. Палоскі паперы са словамі-эмоцыямі, плакат са словамі-эмоцыямі, чыстыя палоскі паперы.

**Медыяадукацыйныя складнікі:**

- работа з відэаматэрыялам; параўнанне месыджу відэа, малюнка з летапісу і тэксту падручніка;
- праца з партрэтамі князёўны як з медыятэкстам.

**Ход урока:**

**Матывацыя, актуалізацыя**

***1. Сувязь з мінулымі ведамі:***

(на прэзентацыі запіс: 862 і Францыск Скарына).

https://drive.google.com/open?id=1RgTsdblH7Rl5CjWMDkazZWCwRxlNTpSe

Напішыце як можна больш фактаў і звестак, азначэнняў, якія аб'ядноўваюць гэтыя надпісы (Беларусь, Полацк, першы (друкар і горад), знакаміты, музей...).

Вы ведаеце, што многія з гэтых слоў датычацца і тэмы сённяшняга ўрока:

Беларусь, Полацк, першы (князь), знакаміты...

***2. Прагляд відэафрагмента фільма „Вікінг"***

https://drive.google.com/open?id=1lQl474y79IbJhM5DSA4FSpRXwJ7_hG4A

Але перад тым, як мы даведаемся, аб кім будзеісці гаворка, я прапаную вам паглядзець фрагмент фільма „Вікінг".

Заданне для прагляду: падумайце, хто з герояў вам больш даспадобы і чаму: галоўны герой — мужчына ці гераіня — дзяўчына.

(Выказванне меркаванняў дзяцей — франтальна, правіла непадымання рукі.)

А зараз паглядзіце фрагмент яшчэ раз і апішыце, якія эмоцыі і пачуцці выклікаюць у вас гэтыя героі, якія, на ваш погляд, словы характарызуюць іх. У якасці дапамогі для вас — слоўнік эмоцый. Але вы можаце дадаваць і свае словы. Напішыце іх на палосках паперы.

***3. Меркаванні пра характар герояў***

Мужнасць, моц, смеласць, дабрыня, злосць, ганарлівасць, жорсткасць, спачуванне, жаль, сумненне, крыўда, адвага, грубасць, расчараванне, зняважа, нянавісць, гнеў...

*Дзеці замацоўваюць выбраныя словы (франтальна, лёсаванне) каля фотаздымкаў герояў. Настаўнік пераварочвае фотаздымкі і на дошцы з'яўляюцца імёны: Рагнеда і Уладзімір.*

**Знаёмства з тэмай урока. Вызначэнне мэты**

***1. Пастаноўка тэмы***

Зараз я раскрываю вам першую загадку — гэтых герояў завуць Рагнеда і Уладзімір. Мы з вамі прагледзелі фрагмент з фільма „Вікінг" пра іх. Вось што атрымалася ў вас па ўражаннях фільма. Але наколькі праўдзіва падалі нам сцэнарыст і рэжысёр інфармацыю, мы даведаемся, калі пазнаёмімся з яшчэ некалькімі вытокамі інфармацыі (медыятэкстам): малюнкамі летапісу і тэкстам падручніка.

Тэма нашага ўрока — „Князёўна з трыма імёнамі".

***2. Вызначэнне мэты ўрока вучнямі***

Давайце паспрабуем вылучыць мэты нашай дзейнасці.

(Словы-памочнікі: даведаюся; прааналізую; параўнаю.)

**Праца над тэмай урока**

***1. Праца з малюнкамі летапісу:***



Паназірайце за малюнкам у групе (у кожнай групы аднолькавы малюнак з летапісу з надпісам „Не хачу разуці рабыніча"), падпішыце персанажаў, выкарыстоўваючы словы: Рагнеда, Уладзімір, бацька Рагнеды. Падумайце, якім чынам адбывалася сватаўство паводле летапісу. У чым адрозненне з тым, што вы бачылі ў фільме?

*Дзеці робяць вывад, што, паводле малюнка летапісу, Уладзімір размаўляў толькі з бацькам Рагнеды, а Рагнеда выказала свае думкі бацьку, а не Уладзіміру. Гутаркі паміж дзяўчынай і Уладзімірам на малюнку летапісу не адлюстравана, але словы абразы паводле таго, што Уладзімір — сын рабыні, яна выказала. (Выказванні прадстаўнікоў груп — па жаданні.)*

Ці змяніліся вашы адносіны да герояў? (Дзеці выказваюць свае меркаванні.)

***2. Праца з тэкстам падручніка. Складанне тэкставага пазла***

Зараз працуем у парах: кожная пара атрымае свой нумар (1, 2, 3). У адпаведнасці з гэтым нумарам вам неабходна прачытаць такі нумар абзаца падручніка на с. 40 і запоўніць пропускі ў тэкставым пазле па тэме.

| | | |
|---|---|---|
| 1) Калі?_________ | 2) На што разлічвалі?_________ | 3) Хто?______________ |
| Хто?__________ | Каго выбралі?______________ | Што здарылася? __ |
| Узрост________ | Адкуль?____________________ | Лёс дзяўчыны_____ |
| Што здарылася?_ | Каму адмовілі?_____________ | Што адбылося далей? |
| | Адкуль?___________________ | |

Выказванне ўдзельнікаў пар па нумарах — дзеці выбіраюць, хто з пары

выходзіць да дошкі. Спачатку выказваюцца тыя, у каго № 1 па чарзе па пытанні. Калі ёсць дапаўненні ў класе — дадаюць. Настаўнік запаўняе пазл на дошцы падрыхтаванымі словамі (ці піша) — у адпаведнасці з адказамі дзяцей. Дзеці запаўняюць аналагічныя таблічкі ў сваіх сшытках *(запаўняюць тыя пропускі, дзе не працавалі, ці выпраўляюць недакладнасці).*

*(Адказы падмацоўваюцца малюнкамі на прэзентацыі.)*

Да якой высновы зараз можам прыйсці? Ці змяніліся ў вас адносіны да герояў? Якія факты з падручніка далі вам больш поўны малюнак дзеяння і дазволілі зірнуць на герояў па-іншаму? (Рагнедзе было толькі 14 год: імпульсіўны ўзрост; яна ўжо згадзілася выйсці замуж за іншага; Уладзімір забіў яе родных).

*Так, з'явілася спачуванне Рагнедзе, незадаволенасць дзеяннямі Уладзіміра.*

***3. Пошук адказу на ключавое пытанне***

Як вы лічыце, якія з медыяпаведамленняў далі нам больш праўдзівае апісанне падзей даўніны: фільм, летапіс ці падручнік? (Летапіс і падручнік.)

Чаму? (Бо гэта гістарычныя дакументы.)

Па якой прычыне фільм нельга назваць праўдзівай крыніцай інфармацыі? (У ім — вымысел сцэнарыстаў і рэжысёраў.)

Як распазнаць праўду і няпраўду ў адлюстраванні гісторыі праз медыятэксты?

*Трэба выкарыстоўваць даныя з розных крыніц, розныя медыятэксты, параўноўваць іх паміж сабой, шукаць, якія з іх носяць канкрэтна-гістарычны і праўдзівы характар, а якія ўключаюць фантазію аўтараў.*

*ФІЗКУЛЬТХВІЛІНКА „СЭРЦА БЕЛАРУСІ"*

https://www.youtube.com/watch?v=sXSE9twJVRg *(на момантце акрабатычных кампазіцый — ідзем на месцы, «махаем крыламі»).*

***4. Праца па падручніку ў парах***

*Фотаздымак як медыятэкст*

У вас ёсць малюнкі — партрэты Рагнеды. Прачытайце працяг гісторыі пра яе з падручніка, уклейце ў сшыткі малюнкі і зрабіце ім подпіс і расшыфроўку — якое імя носіць дзяўчына на малюнку і чаму. У парах абгрунтуйце і адкажыце, па якой прычыне вы так вырашылі.



Рагнеда. Імя дзяўчыны, якое далі ёй бацькі.



Гарыслава. Імя дзяўчыны пасля замужжа. Сімвалізуе гора ад гібелі родных. 6 дзяцей. Хацела забіць мужа. Была адпраўлена ў горад, які назвалі ў гонар сына — Ізяслаўль (Заслаўе).



Анастасія. Імя пасля пострыгу ў манашкі.

Чаму выбралі менавіта гэтыя малюнкі да імёнаў? (1 — простая дзяўчына, без знакаў адрознення, 2 — карона — Кіеўская княжна, 3 — адзенне манашкі.)

Выказванні дзяцей аб лёсе дзяўчыны на этапах жыцця (франтальная работа, метад лёсавання).

Размяшчэнне на дошцы пад фотаздымкамі подпісаў — фрагментаў жыцця: бацька — Рагвалод, 14 год, полацкая князёўна, жаніх — Яраполк, муж — Уладзімір, 6 дзяцей, сын Ізяслаў, хацела забіць мужа, Ізяслаў абараніў маці, пастрыглася ў манашкі, Ізяслаў — полацкі князь *(дапаўняецца паказам прэзентацыі).*

**Падвядзенне вынікаў**

***1. Характарыстыка герояў***

Давайце запоўнім табліцу характару герояў (Уладзіміра і Рагнеды) цяпер, калі вы даведаліся пра іх больш інфармацыі *(дзеці выбіраюць словы, замацоўваюць на дошцы).*

*Адкрываецца крыло дошкі, дзе была папярэдняя характарыстыка.*

Ці поўнасцю супадаюць вашы першыя ўражанні і тыя, якія вы атрымалі напрыканцы ўрока? *(Адрозніваюцца.)*

Чаму з'явіліся адрозненні?

***2. Адказ на другое ключавое пытанне:***

Чаму дзяўчыну называюць „Князёўна з трыма імёнамі"? (З-за цяжкага лёсу Рагнеда два разы мяняла імя: пасля замужжа стала Гарыславай, пасля пострыгу ў манашкі — Анастасіяй.)

Якія віды медыя больш праўдзіва дапамогуць нам разгадаць гістарычную загадку: чаму дзяўчыну называюць „Князёўна з трыма імёнамі"?

(Падручнік і летапіс носяць больш дакументальны, гістарычны характар.)

***3. Выніковы тэст***

1. Як звалі бацьку Рагнеды? __________ (Рагвалод)
2. У якім горадзе жыла Рагнеда? __________ (Полацк)
3. Імя жаніха, за якога збіралася Рагнеда замуж. _______ (Яраполк)
4. Напішыце, колькі год было Рагнедзе, калі яна стала жонкай Уладзіміра ______ (14)
5. Што зрабіў Уладзімір з роднымі Рагнеды? ________ (забіў)
6. Якое імя атрымала Рагнеда пасля замужжа? (Гарыслава)
7. Княжной якога горада стала Рагнеда пасля таго, як Уладзімір перамог брата? _______ (Кіева)
8. Як звалі сына Рагнеды, які абараніў маці? ________ (Ізяслаў)
9. Колькі дзяцей было ў Рагнеды? ______(6)
10. Якое імя атрымала Рагнеда пасля пострыгу ў манашкі? (Анастасія)

*Вучні самастойна выконваюць тэст, запаўняючы пропускі. Затым адбываецца ўзаемаправерка па ключы з адказамі. У ключы пазначаны старонкі, на якіх ёсць гэтая інфармацыя. Пры ўзаемаправерцы сусед ставіць знакі + і — і каля памылковых варыянтаў пазначае старонку, на якой знаходзіцца правільны адказ.*

Устаньце тыя, чый сусед справіўся з заданнем без памылак ці дапусціў адну памылку. Паапладуйце сваім суседзям — яны былі вельмі ўважлівымі на ўроку.

***4. Рэфлексіўныя выказванні***

Дапоўніце выказванні:

— на ўроку я... — даведаўся...;
— прааналізаваў...;
— параўнаў...;
— зразумеў...
— мяне здзівіла...
— мне было цікава даведацца...
— мяне расчаравала...

**Дамашняе заданне**

а) агульнае: апавяданне «Князёўна з трыма імёнамі», адказы на пытанні;

б) дадатковае: даведацца, як звалі астатніх дзяцей Рагнеды і які лёс быў у іх.

# Узаемнае
## навучанне настаўнікаў у школах як механізм іх прафесійнага развіцця



Мікалай ЗАПРУДСКІ



Галіна СУХАВА

**Мікалай ЗАПРУДСКІ** – прафесар кафедры педагогікі і менеджменту адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, кандыдат педагагічных навук, дацэнт.

**Галіна СУХАВА** – настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 5 г. Віцебска, настаўнік-метадыст.

У артыкуле разглядаюцца вынікі даследаванняў, прысвечаных параўнальнай ацэнцы эфектыўнасці розных формаў павышэння кваліфікацыі настаўнікаў.

Пад прафесійным развіццём педагогаў разумеюць працэс фарміравання комплексу прафесійна значных якасцей асобы, якія выказваюць цэласную структуру і асаблівасці педагагічнай дзейнасці. Актуальнасць тэмы абумоўлена многімі прычынамі: новымі ўмовамі функцыянавання ўстаноў адукацыі; нашы дзеці становяцца іншымі; новымі запытамі на адукацыю з боку асобы, грамадства і рынку працы; высокай дынамікай перамен у грамадстве; канкурэнтным асяроддзем у сферы адукацыі і да т.п.

Ёсць розныя магчымасці і шляхі для вырашэння задачы прафесійнага развіцця настаўнікаў. У практыцы ўжываюцца і навучанне педагогаў па-за ўстановай (на курсах павышэння кваліфікацыі, на семінарах, канферэнцыях, падчас конкурсаў прафесіянальнага майстэрства), і ў рамках установы адукацыі (настаўніцтва, узаемнае навучанне, наведванне і аналіз вучэбных заняткаў), і самаадукацыя.

Было цікава і важна высветліць, якія з пералічаных формаў даюць найбольшы адукацыйны эфект. Для гэтага мы, па-першае, апыталі дырэктараў школ, іх намеснікаў і настаўнікаў фізікі; па-другое звярнуліся, да вынікаў адпаведных замежных даследаванняў.

Нашым рэцыпіентам мы прапанавалі ажыццявіць ранжыраванне формаў павышэння кваліфікацыі, гэта значыць ацаніць, якія з іх забяспечваюць найбольшы адукацыйны эфект. Былі атрыманы наступныя вынікі (табліца).

*Табліца. Ацэнка кіраўнікамі школ і настаўнікамі фізікі эфектыўнасці розных формаў павышэння кваліфікацыі*

| Формы | Настаўнікі фізікі | Завучы | Дырэктары |
|---|---|---|---|
| Наведванне і аналіз урока завучам | 6 | 4 | 5 |
| Курсы | 2 | 1 | 1 |
| Семінары | 5 | 2 | 2 |
| Канферэнцыі | 8 | 7 | 8 |
| Настаўніцтва | 7 | 8 | 6 |
| Узаемнае навучанне | 3 | 5 | 4 |
| Адкрытыя ўрокі | 4 | 6 | 7 |
| Самаадукацыя | 2 | 3 | 3 |

Лёгка бачыць, што ў рэйтынгу вышэй варыянты павышэння кваліфікацыі, якія звязаны або з праявай індывідуальнасці педагога (самаадукацыя), або прадугледжваюць франтальную працу ў аўдыторыі: звычайна адзін кажа, астатнія слухаюць. (Можа быць, таму ў нас удзельнікаў павышэння кваліфікацыі ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі і інстытутах развіцця адукацыі называюць слухачамі?). Варыянты, якія прадугледжваюць інтэрактыўнае ўзаемадзеянне педагогаў, апынуліся аўтсайдарамі. Гэта — настаўніцтва, наведванне і абмеркаванне ўрока, узаемнае навучанне.

Чаму так? Гэта плён сістэмы школьнай і ўніверсітэцкай адукацыі. Нам заўсёды казалі, што савецкая школа выхоўвае калектывістаў, а на Захадзе ўзгадоўваць індывідуалістаў. Гэта міф. Усё апынулася наадварот! Па сутнасці савецкая школа (ды і шмат у чым сённяшняя) не прадугледжвала ўзаемадзеянне, інтэрактыўнасць у навучанні. Кантакты дзяцей на ўроках не заахвочваліся. У ВНУ студэнт слухаў выкладчыка, вёў запісы ў канспекце, індывідуальна рыхтаваўся да экзаменаў і залікаў, індывідуальна пісаў курсавыя і дыпломную працу. Плён такой адукацыі мы пажынаем і дагэтуль: найважнейшыя кампетэнцыі — камунікатыўнасць, уменне слухаць і чуць партнёра, уменне працаваць разам, узгадняючы свае мэты і дзеянні — запатрабаваныя на рынку, у адукацыйнай практыцы, але аказваюцца ў дэфіцыце.

Слухаць, што распавядае выкладчык, кіраўнік — гэта так звыкла! Таму так высока апынуліся ў рэйтынгу курсы і семінары, на якіх, як мы ведаем, пераважаюць тлумачальна-ілюстрацыйныя метады трансляцыі інфармацыі. Дарэчы кажучы, інфармацыі, якую можна прачытаць.

Верагодна, нашы рэцыпіенты не мелі дастатковага досведу і такой эфектыўнай практыкі, калі наведванне і аналіз урока завучам, настаўніцтва, узаемнае навучанне, прыносілі істотную карысць у прафесійным развіцці. Але ж ёсць пераканаўчыя сведчанні таго, што менавіта гэтыя формы забяспечваюць пазітыўны эфект і, у рэшце рэшт, забяспечваюць павышэнне якасці адукацыі навучэнцаў.

Звернемся да даследаванняў, якія правялі замежныя навукоўцы-педагогі. Яны тычыліся тэмы: як найлепшым чынам забяспечваць павышэнне прафесіяналізму настаўнікаў непасрэдна ва ўстанове адукацыі? Майкл Барбер і Мона Муршэд правялі фундаментальнае даследаванне, у рамках якога яны вывучылі 25 школьных сістэм у 10 краінах свету[1]. Аўтары шукалі адказ на пытанне: што аб'ядноўвае лепшыя школьныя сістэмы

[1] М. Барбер, М. Муршэд, *Як дамагчыся стабільна высокай якасці навучання ў школах: Урокі аналізу лепшых сістэм адукацыі свету*. Рэжым доступу: https://vo.hse.ru/2008—3/26555157.html. Дата доступу: 18 жніўня 2016 г.

незалежна ад культурнага і сацыяльнага кантэксту? Яны заўважылі, што кіраўнікам школ неабходна канцэнтраваць сваю ўвагу на тым, што адбываецца ў класах. Для таго, каб удасканальваць адукацыйны працэс, ім неабходна працаваць на прафесійнае развіццё настаўнікаў, для чаго вырашаць наступныя задачы:

- дапамагаць асобным настаўнікам разумець тыя недахопы, якія маюцца ў іх працы;
- узбройваць кожнага педагога ведамі аб перадавых методыках і тэхналогіях і ўменнямі іх прымянення ў класах;
- стымуляваць у кожнага настаўніка матывацыю на ўдасканаленне сваёй працы.

Для вырашэння гэтых задач не падыходзяць традыцыйныя варыянты арганізацыі метадычнай работы. Пра гэта кажуць вынікі, якія атрымалі аўтары дадзенага даследавання. Вось цытата з іх навуковай справаздачы: «Усе даныя сведчаць аб тым, што чытаць настаўнікам лекцыі і пасылаць іх на семінары — гэта недастаткова, таму што гэта не прыводзіць да змен у класе. Уяўленне, што прыўнесеныя звонку ідэі аўтаматычна прывядуць да змен у класе і школе, глыбока памылковыя з пункту гледжання тэорыі дзейнасці. Тым не менш, нягледзячы на ўвесь вопыт няўдач, і той факт, што пры падрыхтоўцы людзей да любой іншай прафесіі практычныя заняткі праводзяцца ў асноўным у рэальнай абстаноўцы (лекары і медсёстры праходзяць практыку ў шпіталях, святары — у цэрквах, юрысты — у зале суда, кансультанты — на прадпрыемствах кліентаў), пры падрыхтоўцы да настаўніцкай прафесіі практычныя заняткі вельмі рэдка праходзяць у рэальным класе. Але менавіта там можна дамагчыся максімальнай эфектыўнасці падрыхтоўкі».

Згодна з вынікамі іх даследавання, для таго, каб дапамагчы настаўнікам павысіць якасць адукацыі навучэнцаў, у найбольш эфектыўных школах ствараюцца ўмовы, пры якіх асобныя настаўнікі пачынаюць разумець недахопы ў іх дзейнасці, атрымліваюць дакладныя веды аб апрабаваным новым вопыце, праяўляюць матывацыю да паляпшэння сваёй дзейнасці.

Для гэтага, як адзначаюць М. Барбер і М. Муршэд, у паспяховых установах адукацыі:

- праяўленая высокая актыўнасць кіраўнікоў у працы са сваімі настаўнікамі (дырэктар, па сутнасці, выконвае метадычныя функцыі);
- арганізавана настаўніцтва;
- створаны ўмовы для таго, каб настаўнікі вучыліся адзін у аднаго.

Яны паказваюць на тое, што ў педагагічных калектывах павінна быць атмасфера супрацоўніцтва, а не канкурэнцыі. Кіраўнічая каманда павінна прымаць меры па пераводзе школы ў рэжым арганізацыі, якая навучаецца, у якой людзі на ўсіх узроўнях, калектыўна, бесперапынна нарошчваюць здольнасці ствараць тое, што яны сапраўды хочуць ствараць; школа, у якой адміністратары і настаўнікі пастаянна і сумесна вучацца дзеля забеспячэння якасці адукацыі навучэнцаў. Цяжка арганізаваць асобасна-арыентаванае навучанне аднаму настаўніку, калі астатнія прытрымліваюцца іншых поглядаў і працуюць традыцыйна.

Нельга без увагі пакінуць вынікі даследавання аўстралійскага прафесара Джона Хэці[2]. Ён вызначыў фактары, якія

[2] Т. Мацкевіч, А. Орса-Рамана, *Фактары, якія ўплываюць на эфектыўнасць навучання: паводле даследавання Джона Хэці «Узаемабачнае навучанне»*, «Фізіка», 2013, № 5.

пазітыўна/негатыўна ўплываюць на якасць адукацыі вучняў. Па катэгорыі «настаўнік» найбольш эфектыўным аказалася ўзаемнае навучанне педагогаў (ён яго назваў мікранавучаннем).

Нарэшце звернемся да даследавання Андрэаса Шляйхера — дырэктара па адукацыі і навыках Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця. Менавіта ён з'яўляецца ініцыятарам і навуковым кіраўніком даследавання PISA. На падставе аналізу вынікаў тэставанняў навучэнцаў і супастаўлення іх з вынікамі анкетавання настаўнікаў і кіраўнікоў школ, ён зрабіў шэраг важных высноў, у прыватнасці: «І нідзе якасць школьнай сістэмы не пераўзыходзіць якасць яе настаўнікаў. Лепшыя школьныя сістэмы старанна адбіраюць і навучаюць сваіх выкладчыкаў. Яны забяспечваюць асяроддзе, у якім настаўнікі працуюць разам, каб сфармаваць перадавую практыку, і яны заахвочваюць настаўнікаў расці ў сваёй кар'еры, праяўляць наватарства, павышаць сваю эфектыўнасць і эфектыўнасць сваіх калег, а таксама імкнуцца да прафесійнага развіцця, якое вядзе да лепшай практыкі»[3].

У выніку даследавання TALIS была выяўлена наступная заканамернасць: актыўныя метады навучання (праца ў малых групах, метад праектаў) больш часта ўжываюць у сваёй практыцы настаўнікі, якія займаюцца сваім прафесійным самаразвіццём (з'яўляюцца ўдзельнікамі прафесійных супольнасцей, праводзяць індывідуальныя або групавыя даследаванні па інтарэсах), а таксама педагогі, залучаныя ў настаўніцтва і ўзаемнае навучанне. Даследаваннем выяўлена моцная сувязь паміж выкарыстаннем такіх метадаў навучання, як праца ў малых групах і метад праектаў, і рознымі аспектамі прафесійнага развіцця настаўнікаў. Узаемнае навучанне заснавана на зносінах і ўзаемадзеянні ўдзельнікаў у працэсе пазнання, на сумесным пошуку шляхоў вырашэння прафесійных праблем[4].

Узаемнае навучанне настаўнікаў можа арганізоўвацца ў розных варыянтах, большасць з якіх звязана з практыкай правядзення адкрытага ўрока. Мы спынімся на мадэлі «Назіранне дзеля паляпшэння» (дарэчы, запазычанай намі ў польскіх настаўнікаў). Яна ўжываецца, калі настаўнік жадае атрымаць дапамогу калег для вырашэння педагагічнай праблемы ў класе (з дысцыплінай, камунікацыяй, нізкай матывацыяй да навучання і г.д.), мае намер пачуць ацэнку калег аб тым, як у яго на ўроку працуе тая ці іншая інавацыя, ці проста атрымаць парады, як палепшыць працу. Для гэтага ён запрашае калег на свой урок, але часцей за ўсё запісвае яго або асобны фрагмент на відэа. Перад наглядам або праглядам урока калегамі ён просіць іх звярнуць асаблівую ўвагу на пэўныя аспекты ўрока, на дзейнасць асобных вучняў.

Ідэя гэтага метаду простая. Яна выяўляецца ў вядомай прымаўцы: збоку лепш відаць. Сапраўды, настаўнік, у якога 25 вучняў у класе, не мае магчымасці ўважліва назіраць за кожным з іх. Таму вынікі назірання з боку калег даюць яму важную інфармацыю. Ужываецца наступны парадак працы:

- настаўнік-аўтар урока выбірае некалькі вучняў, якія ў яго выклікаюць пэўны неспакой. Потым ён просіць калег асабліва ўважліва назіраць

[3] *Андрэас Шляйхер пра тое, чаму нельга выкладаць дзецям тое, што вучылі іх бацькі*. Рэжым доступу: http://eschool.by/andreas-schleicher/?fbclid=IwAR1TfiWcZx2_0hLKbpv2qCS3ewzgfloc2MeERYtuVtTA-YtvQ_IdqWMl43xl. Дата доступу: 23 лютага 2019 г.

[4] *Аналіз механізмаў павышэння статусу настаўніка на падставе вынікаў TALIS*. Рэжым доступу: http://iac.kz/ru/analytics/analiz-mehanizmov-povysheniya-statusa-uchitelya-na-osnovanii-rezultatov-talis/ Дата доступу: 22 снежня 2018 г.

менавіта за імі; назіранне на ўроку праводзяць тыя настаўнікі, якія самі не працуюць з гэтымі вучнямі;

- пры назіранні выкарыстоўваюцца крытэрыі, якія распрацоўваюць члены назіральнай групы;

- сустрэча ўдзельнікаў назірання пасля правядзення і наведвання ўрока. Падчас гэтай сустрэчы настаўнікі называюць толькі факты, але не даюць ацэначныя меркаванні; на падставе назіранняў за асобнымі вучнямі робіцца характарыстыка класа; адбываецца падрыхтоўка і складанне адпаведных рэкамендацый настаўніку гэтага вучня і бацькам.

Такім чынам, усе чатыры даследаванні замежных педагогаў паказваюць на прыярытэтную форму павышэння кваліфікацыі педагогаў ва ўстанове адукацыі — гэта ўзаемадзеянне і ўзаемнае навучанне настаўнікаў. Ёсць падставы казаць аб доказальнай педагогіцы. Узаемнае навучанне можа быць арганізавана ў форме настаўніцтва або ў форме «лабараторнай практыкі» ў працэсе сумеснага праектавання, правядзення і аналізу ўрокаў.

І на завяршэнне артыкула адзначым, узаемнае навучанне занадта значная і эфектыўная інавацыя, каб ігнараваць яе і абыякава назіраць, як яго выкарыстоўваюць настаўнікі ў больш паспяховых краінах і школах.

# Супрацоўніцтва

## дзеля будучыні, або «Дай, калі можаш, вазьмі — калі хочаш»

*Некалі Уладзімір Караткевіч пісаў, што беларусам Бог даў усяго добрага зашмат, але ў кампенсацыю мы атрымалі «найгоршае ўва ўсім свеце начальства». Мы гэта добра ведаем. І беларусы з Беларусі, і беларусы з Падляшша маюць не надта спрыяльную для развіцця нацыі ўладу, не кажучы ўжо пра тых, хто паехаў на чужыну шукаць лепшай долі. Але ці не зашмат увагі і энергіі мы марнуем на тое найгоршае начальства? Можа давайце арганізуемся і выкарыстаем тое добрае, што нам даў Бог!*

*У гэтай нататцы хачу напісаць, што могуць зрабіць і што робяць беларусы ў адукацыі. Бо людзі яны таленавітыя — сцвярджае Бог вуснамі Караткевіча.*



Тамара МАЦКЕВІЧ

**Тамара МАЦКЕВІЧ**
— Таварыства беларускай школы, Менск.

**Што робіць ТБШ для настаўнікаў апошнія дваццаць год**

Ужо больш за дваццаць год вакол Таварыства беларускай школы гуртуюцца таленавітыя настаўнікі. Пачыналі з семінараў па актыўных метадах навучання. Гады тры-чатыры ездзілі па школах, рабілі семінары ў кавярнях і іншых непрыстасаваных месцах, калі ў школы не пускалі. Пачыналі гэтую працу разам з трэнерамі: Дзмітрыем Губарэвічам, Сяргеем Кручыніным, Юляй Скрыган і іншымі. Нехта не вытрымліваў і сыходзіў, але часам да адукацыйных валачобнікаў далучаліся замежныя педагогі і тыя, хто ўжо нечаму сам навучыўся. Так і сабралася першая група настаўнікаў-энтузіястаў, якія ўжо самі маглі праводзіць трэнінгі, далучаць калег, якім было няўтульна ў састарэлай савецкай сістэме адукацыі.

Потым дзякуючы аднадумцам і навуковым крыніцам сталі ўкараняць тыя метады больш сістэмна. У 2009 годзе ўзнікла праграма «Актыўная ацэнка» [*formative assessment* (анг.), *ocenianie kształtujące* (пол.)]. І хоць прыйшла яна да нас з Вялікабрытаніі і Польшчы, ад Дануты Стэрны, у аснову яе пакладзены ідэі нашага Льва Выгоцкага, які, працуючы ў пачатку ХХ стагоддзя з беларускімі дзецьмі і настаўнікамі ў Гомелі, і сфармуляваў сваю тэорыю «зоны найбліжэйшага

развіцця». Гэтая тэорыя цяпер ляжыць у падмурку сучаснай педагогікі развіцця. А ўсе самыя інавацыйныя навучальныя тэхналогіі толькі знаходзяць розныя шляхі «намацаць» гэтую зону, каб выбудаваць індывідуальную траекторыю навучання для кожнага вучня.

Актыўная ацэнка адразу прыжылася ў Беларусі, хоць яе начальства спачатку ўспрыняло ў штыкі. Ну на тое ж яно і «найгоршае»! Але вельмі хутка хвост стаў віхляць сабакам і праз якіх 5-7 год нашы настаўнікі не ўяўляюць, што можна здаць іспыт „на катэгорыю" ў дзяржаўнай установе, не прапісаўшы, як вучні на іх уроку вызначаюць мэты, крытэры іх дасягнення і якую зваротную інфармацыю яны маюць ад настаўніка, каб ісці наперад у навучанні. Тое самае адбылося і з праграмай ТБШ «Медыяадукацыя ў школе» — праграмай укаранення медыяпісьменнасці і медыясродкаў у навучальны працэс.

Так праграмы Таварыства беларускай школы паступова становяцца часткай навучальнага працэсу ў школе. Бо час патрабуе змен. У Беларусь пачалі прыязджаць вучыцца расейцы, пераклалі нашу кнігу „Актыўная ацэнка ў дзеянні: вопыт настаўнікаў Беларусі" на сваю мову. Украінцы таксама запрашаюць нашых настаўнікаў падзяліцца досведам. Пасля рэвалюцыі гонару яны робяць рэформу адукацыі. Там ведаюць, што трэба мяняць, і ў законах гэта прапісалі. А мы ведаем, як гэта зрабіць. Бо мы даўно гэта робім. На жаль, без рэформы і заканадаўства. Цяпер беларускіх настаўнікаў запрашаюць у міжнародныя праекты, дзе трэба менавіта практыка.

**Што такое Эдкэмп і як ён дапамагае настаўнікам**

Ідэя далучыцца да сусветнага руху і зрабіць першы EdCamp Belarus узнікла якраз у 2017 годзе. Мы хацелі сабраць гэтых практыкаў разам, даць ім прастору для дыскусій і ўзаеманавучання. Беларускі Эдкэмп праходзіць пад дэвізам „Лепшыя практыкі ў кожным класе краіны!".

Эдкэмп — гэта грамадская ініцыятыва. Яго арганізатарамі выступілі Таварыства беларускай школы разам з маладымі бізнесоўцамі з The Global Shapers Minsk



Hub, да якіх далучыліся больш за 70 валанцёраў.

Сёлета Эдкэмп праходзіў ужо трэці раз. У свае выхадныя дні настаўнікі з усёй краіны прыехалі ў Менск, каб падзяліцца адно з адным самымі сучаснымі педагагічнымі практыкамі або проста прайсці майстар-класы ад «гуру» педагогікі ці калег. Галоўны прынцып форуму — добраахвотнасць: «дай, калі можаш, вазьмі — калі хочаш».

Усе тут могуць быць як спікерамі, так і слухачамі. Кожны ўдзельнік падчас Эдкэмпу мае 60 секунд, каб прапанаваць сваю педагагічную ідэю, агучыць праблему і шляхі яе вырашэння, запрасіць на свой майстар-клас. Гэта частка называецца «кірмаш ідэй». Пасля яго, падчас кава-перапынку, адбываецца галасаванне, і тыя ідэі, што набіраюць большасць галасоў, атрымліваюць месца ў праграме.

Такім чынам, праграму складаюць самі ўдзельнікі. А далей працуе правіла «дзвюх ног». Майстар-класы, прэзентацыі, лекцыі адбываюцца адразу ў пяці розных месцах, а ўдзельнікі «галасуюць нагамі» — ідуць туды, дзе найбольш цікава.

Сёлета Эдкэмп сабраў больш за 200 настаўнікаў, якія заявілі 81 прэзентацыю, а атрымаць месца ў праграме змаглі толькі 20 з іх. Каб не згубіць ідэі, была арганізавана постэрная сесія. Усе ідэі можна было аформіць у якасці плакатаў і вывесіць у холе. Так завязваліся кантакты, планавалася далейшая супраца.

Хтосьці трапна параўнаў EdCamp з наркотыкам, ад якога немагчыма адмовіцца. Хтосьці назваў яго настаўніцкім кіслародам, які дапамагае выжываць. Многія з удзельнікаў педагагічнай (не)канферэнцыі лічаць сябе белымі варонамі ў школах, а EdCamp дае ім магчымасць трапіць у чараду такіх жа, як ты сам. А настаўніца пачатковых класаў Святлана Локіс упэўнена, што за белымі варонамі — будучыня, і што найлепшы спосаб павялічыць колькасць белых варон — перафарбаваць чорных!

Эфект нефармальнай сустрэчы актыўных настаўнікаў у тым, што яна натхняе, пасля яе хочацца працаваць па-новаму,



творча, актыўна, плённа і ў сучасным фармаце. «Супрацоўніцтва — для будучыні» — менавіта так была сфармуляваная агульная ідэя для EdCamp Belarus — 2019.

**Што карыснага для настаўнікаў было на EdCamp Belarus — 2019**

Так як удзельнікі самі вызначаюць тэмы, па якіх адбываюцца майстар-класы і прэзентацыі, то заўсёды гэтыя тэмы паказваюць, „што баліць" у адукацыі і што патрабуе калектыўнай дапамогі. А таксама ідэі, як гэта „вылечыць".

Настаўнікі прапанавалі шмат „лайфхакаў", як можна проста вырашыць складаную педагагічную задачу: метадычную ці выхаваўчую. Напрыклад, Наталля Катчанка з Нясвіжа паказала, як дзецям дапамагчы ўсвядоміць сябе беларусамі — прапануйце ім скласці экскурсію для гасцей: палякаў ці расейцаў, і паказаць, чым мы адрозніваемся.

Карысна тое, што ўсе гэтыя майстар-класы запісваліся на відэа і іх (а таксама майстар-класы замежных зорак з сінхронным перакладам на беларускую мову) можна праглядзець на канале Настаўніка.інфо: https://www.youtube.com/user/NastaunikInfo

Сёлета сярод абраных майстар-класаў настаўнікаў былі наступныя тэмы:

*Інэса Зубрыліна – „Парады настаўнікам замежнай мовы: эфектыўна і проста";*

*Тамара Качкан – „Прыёмы візуалізацыі вучэбнага матэрыялу на ўроках беларускай літаратуры, або як пазбегнуць эфекту скразняку";*

*Алена Лемантовіч, Юры Сянкевіч – „Тэорыя талерантнасці. Актуалізацыя інклюзіўных працэсаў";*

*Наталля Катчанка – „Сапраўдны патрыятызм ці лайфхакі для класнага кіраўніка";*

*Святлана Іванюшына – „З Калабком ад маленькіх даследаванняў да вялікіх адкрыццяў";*

*Таццяна Размысловіч – „Візуальнае мастацтва для абыякавых школьнікаў";*

*Вольга Счасновіч, Святлана Пузіноўская, Святлана Здаранкова – „Пара па парах, або сцежкамі малой радзімы";*

*Ала Міхеева – „У пошуку скарбаў";*

*Алена Ананчыкава – „Практыкі супрацоўніцтва настаўнікаў";*

*Ала Лазіцкая – „Фарміраванне даследчых кампетэнцый сродкамі медыя-адукацыі";*

*Анатоль Гігола – „Сістэма самакіравання ва ўстановах адукацыі";*

*Наталля Пракаповіч – „Выкарыстанне мнеманічных тэхнік як сродак удасканалення лексічных навыкаў";*

*Вераніка Арлова, Вольга Кецко – „У адно вуха ўлятае, у другое... ці сакрэты эйдэтыкі для X, Y, Z";*

*Вольга Жыткая – „Актыўная ацэнка ў дзейнасці класнага кіраўніка";*

*Вольга Краўчанка – „Чым дапамогуць сакрэты Серафіні на сучасным уроку";*

*Наталля Чаркес – „Стварыць сайт? Гэта проста!";*

*Тамара Храпавіцкая – „Арганізацыя даследчай працы ў межах школьнага навуковага таварыства";*

*Галіна Руціч – „Лэпбук".*

Таксама на Эдкэмп запрашаюцца госці:

Сёлета мы запрасілі гасцей з пяці краін, у тым ліку і сусветную зорку педагогікі Роса Морысана МакГіла — самага ўплывовага педагога ў Вялікабрытаніі. Ягоны настаўніцкі блог teachertoolkit.co.uk рэгулярна ўваходзіць у топ 100 самых карысных педагагічных рэсурсаў і мае 10 мільёнаў чытачоў.

Яго лекцыю і два майстар-класы можна таксама пабачыць з сінхронным перакладам па-беларуску.

Але дэмакратыя — гэта найперш роўнасць. Таму сярод запрошаных гасцей-экспертаў былі і вучні з дзіцячага тэлебачання, якое працу ў школе № 2 г. Століна. Яны нашмат лепш разбіраюцца ў новых тэхналогіях і таму далі свой майстар-клас для настаўнікаў. Столінскія дзеці навучылі настаўнікаў асновам тэлежурналістыкі і нават знялі сюжэт, каб настаўнікі ўмелі прэзентаваць свае ідэі шырокаму колу.

Самае прыемнае, што сярод гасцей мы сёлета мелі беларусаў Беласточчыны. У нас агульная праблема — захаванне тоеснасці і беларускай мовы. У Беларусі Міністэрства адукацыі вядзе мэтанакіраваную палітыку русіфікацыі, на Падляшшы беларускія дзеці таксама жывуць у чужамоўным асяроддзі. Таму на сесіях, якія вялі Аліна і Коля Ваўранюкі, сабралася шмат настаўнікаў. Трэба сказаць, што гэтыя сесіі ішлі паралельна з сесіямі Дануты Стэрны (з Цэнтра грамадзянскай адукацыі (CEO, Варшава), чэшскага медыяпедагога Боба Картоўза і Роса Макгіла — сусветнай зоркі. Але Аліна і Коля выцярымалі канкурэнцыю, бо тэма тоеснасці для беларусаў вельмі актуальная. Значыць, з беларусамі не ўсё так кепска!

Аліна распавяла пра супрацоўніцтва настаўнікаў з бацькамі. Як, аб'яднаўшыся разам, можна рабіць навучальныя і культурніцкія праекты. Беларусам трэба не толькі выжываць у неспрыяльных умовах, а жыць: падтрымліваць, развіваць сваю культуру, адукацыю, мастацтва, мову. А Коля Ваўранюк паказаў свае медыйныя праекты і ўрыўкі з фільмаў пра беларусаў Падляшша. І атрымаў шмат апладысментаў, яго не хацелі адпускаць са сцэны, да яго выбеглі настаўнікі, каб падзякаваць за працу, якую ён робіць.

Ідэя Эдкэмпу вартая пераймання дзеля свайго фармату. А ідэя супрацоўніцтва вартая для нас усіх — беларусаў, якія жывуць у розных краінах. І найлепш гэта рабіць у адукацыі. Бо адукацыя — гэта магутны інструмент пабудовы будучыні. Калі мы накіруем свае сілы на яе, будзем будаваць яе разам, абменьвацца ідэямі, дапамагаць адно аднаму, а не скардзіцца на лёс, тады кепскае начальства нічога з намі зрабіць не зможа.

# Змест



**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Koncept Białystok

Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji